2 сакавіка 2018 | № 7 (570)

Новы час

novychas.by

•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА •ЛЮДЗІ •ПАДЗЕІ •ФАКТЫ

ISSN 2218-2144




Польшча: закупаў не будзе?

Стар. 8



# Збой сістэмы

## Ці чакаць транспартнага калапсу напярэдадні выходных?



Сяргей ПУЛЬША

Іншым разам, калі глядзіш на рашэнні нашых уладных органаў, згадваецца стары савецкі фільм пра Бураціна. А менавіта тая яго частка, дзе драўлянаму чалавечку кажуць: «Бураціна, ты сам сабе вораг!» Дзе яшчэ, у якой краіне Міністэрства транспарту і камунікацый здольнае арганізаваць транспартны калапс?

І не проста транспартны калапс, а транспартны калапс напярэдадні вялікіх чатырохдзённых выходных, калі па краіне перасоўваецца вялікая колькасць людзей. З 26 лютага чыноўнікі Мінтранса запатрабавалі ад прыватных міжгародніх перавозчыкаў змяніць парадак аказання насельніцтву транспартных паслуг.

Прычым, змяніць так, каб «парадак аказання насельніцтву транспартных паслуг» стаў максімальна НЯЗРУЧНЫМ для таго самага насельніцтва.

Напрыклад, маршруткі зараз павінны адпраўляцца толькі з аўтавакзалаў. Перавозчыкі абавязаны распрацаваць расклад, інтэрвалы руху транспартных сродкаў, колькасць рэйсаў, вызначыць маршруты і ездзіць выключна па іх. Спыняцца толькі на канкрэтных прыпынках («спыніцеся, калі ласка, вунь на тым павароце» больш працаваць не павінна). Заключыць дамову з мясцовым апаратарам на ажыццяўленне рэгулярных пасажырскіх перавозак (гэта значыць, заплаціць апаратару і аўтавакзалу). І гэтак далей.

Выкананне гэтых цалкам не патрэбных патрабаванняў зойме мінімум тыдзень бегатні з паперкамі. І ўвесь гэты тыдзень машыны, замест таго, каб развозіць людзей, будуць стаяць «на прыколе». Да чаго гэта прывяло — зразумела.

Без транспарту застаўся, напрыклад, Салігорск. Цяпер гэты горад са сталіцай злучае толькі рэйсавы аўтобус, які ходзіць адзін раз на дзень. З-за новага заканадаўства перавозчыкі адмянілі ўсе маршруткі ў Полацк і Наваполацк, частку рэйсаў у Ліду, Слуцк і Капыль. У Лепелі пасажыры штурмавалі касы аўтавакзала: загадзя там квіткі не прадаюць, бо ўсе аўтобусы — праходзячыя. Касіры раілі прыходзіць на вакзал за дзве гадзіны да адпраўлення транспарту.

Самае смешнае, што ў той жа дзень, 26 лютага, набылі дзеянне асноўныя нормы дэкрэта Лукашэнкі №7 «Аб развіцці прадпрымальніцтва». У гэтым дакуменце кіраўнік краіны адназначна сфармуляваў органам дзяржаўнага кіравання простыя і зразумелыя пасланні: усяляк дапамагаць сумленнаму бізнесу; памяншаць умяшанне чыноўнікаў у арганізацыю і вядзенне бізнесу; стымуляваць самазанятасць і прадпрымальніцкую ініцыятыву, а таксама развіваць справядлівую канкурэнцыю для павелічэння задаволенасці спажыўцоў.

Увеўшы свае навацыі адначасна з дэкрэтам №7, Мінтранс не проста нівеліраваў дакумент кіраўніка краіны — ён наўпрост зняправдзіў яго. Маўляў, дэкрэты не вартыя і паперы, на якой напісаныя, мы ўсё роўна будзем рабіць так, як захочам.

То бок, Мінтранс не толькі арганізаваў транспартны калапс, а яшчэ і моцна падставіў Аляксандра Рыгоравіча.

Чаму так атрымалася — зразумела. Калі глядзець на сэнс дэкрэту, дык, паводле логікі, без працы павінны застацца мноства чыноўнікаў — правяраючых, кантралюючых і гэтак далей. Пазбавіцца цёплага месца нікому не хочацца. Таму ў Мінтрансе вырашылі не палепшыць, а пагоршыць умовы вядзення бізнесу — каб было чым заняцца транспартнай інспекцыі, чыноўнікам аўтавакзалаў, а праз іх і цэнтральнаму апарату. Узгадняць маршруты, распрацоўваць час і месца паркавак (вакзалы ж не гумовыя, два аўтобусы на адну платформу не ўпхнеш), «кантраляваць выкананне», «сачыць за распарадкам»... Уяўляеце, колькі народу займаецца такой — мала каму, апроч чыноўнікаў, патрэбнай — справай у цэлым па краіне?



Фота www.ctv.by

«Скарачэнне дзяржапарату» ў Міністэрстве транспарту таксама становіцца немагчымым. Нават трэба дадаваць вакансіяў кантралёраў.

Хіба выбудаваны ў Беларусі патэрналісцкай дзяржавы ў тым, што за ўсё адказвае адзін чалавек. Мы ўсе ведаем гэтага чалавека. Улада асацыюецца выключна з імем Аляксандра Лукашэнкі. Але і вінаватым ва ўсім усё роўна будзе кіраўнік дзяржавы. У народзе ў любым выпадку ўзнікне думка, што «гэта Лукашэнка нешта нахамутаў». Ніхто не паверыць у тое, што яго міністэрства можа выдаць нешта без яго ж згоды. Ён да гэтага нас прызвычаіў.

> **У якой яшчэ краіне транспартны калапс арганізоўвае Міністэрства транспарту і камунікацый?**

Лішняе пацвярджэнне таму — петыцыя супраць навацый Мінтранса, якую ў інтэрнэце за суткі падпісалі 9 тысяч чалавек. Скіраваная яна не кудынебудзь, а ў Адміністрацыю кіраўніка дзяржавы.

Зразумела, Аляксандр Рыгоравіч можа гучна абурыцца і запатрабаваць адмены гэтых палажэнняў. Гэта яму, можа быць, нават дадасць пару балаў у рэйтынгу і ў імідж «абаронцы простага народа». Але, калі пасля яго патрабаванняў нічога не зменіцца, той яго рэйтынг прасядзе яшчэ больш.

Чаму не зменіцца? Мінтранс аперуе не дэкрэтамі і ўказамі, а законам «Аб аўтамабільным транспарце і аўтамабільных перавозках». Для таго, каб змяніць закон, павінен сабрацца парламент. А збярэцца ён на сесію толькі 2 красавіка, і наўрад ці змены ў закон пра аўтатранспарт будуць яго першым пытаннем.

Шкада, што ў краіне не засталося незалежнай сацыялогіі. Цікава было б паглядзець, як сістэма самазахавання чыноўніцтва абрыне рэйтынг Лукашэнкі — пасля тых самых чатырох доўгіх выходных, калі людзі проста не змогуць зручна з'ездзіць да родных.

# Як на самай справе выглядае падтрымка мацярынства і дзяцінства

Таццяна ГУСЕВА

**Чаму бясплатныя лекі дзецям да трох гадоў трэба адмяніць? Адкрыты ліст мамы дваіх дзяцей да міністра аховы здароўя.**

Маймю сыну 2 гады, і, на шчасце, хварэе ён рэдка. Кожны раз, калі мы звяртаемся да ўчастковага педыятра па хваробе, я адчуваю няёмкасць, калі нагадваю лекару пра наяўнасць льготнай карткі на лекі. Гэта картка дае дзіцяці да трох гадоў права на бясплатныя лекі. З моманту нараджэння сына лекары пра яе не прыгадалі ні разу. Ніхто з іх не прапаноўваў выпісаць лекі па льготным рэцэпце. Кожны раз ініцыятыва зыходзіла з майго боку.

Як рэагуюць на гэту прапанову лекары? Як правіла, спасылаюцца на пералік Міністэрства аховы здароўя і кажуць, што могуць выпісаць самыя танныя беларускія прэпараты: «Але вы ж разумееце, яны не самыя эфектыўныя».

Толькі аднойчы мне ўдалося дабіцца выпіскі «парацэтамолу» ўкраінскай вытворчасці і імпартнага антыбіётыка. Праўда, чакаць давялося больш за гадзіну, пакуль лекар выпісала гэтыя рэцэпты. Увесь гэты час мы з хворым дзіцем шпацыравалі каля паліклінікі.

Нядаўна пачула ад лекара, што бясплатны рэцэпт на сродак для носу яна не выпіша, таму што «не положено», і нагогул, «вы ж дапамогу на дзіця атрымліваеце». Заўважу, што падобная рэакцыя была, калі лекар прызначыла пратаргол, які каштуе капейкі!

Мяркуючы па водгуках знаёмых маці, у Мінску, у адрозненне ад Слуцка, лекары выпісваюць дзецям да трох гадоў большую колькасць прэпаратаў, у тым ліку і імпартных, па льготных рэцэптах. Кажу пра гэта лекару і чую ў адказ: «Ну дык у Мінску і бюджэт іншы».

Адкрываю на сайце Міністэрства аховы здароўя пералік прэпаратаў, якія могуць выпісваць дзецям да трох гадоў бясплатна, і бачу ў пераліку антыбіётыкі і кроплі для носа (нафазалін, ксіламетазалін), супрацьвірусныя сродкі (ацыклавір, рэмантадзін) і сіропы ад кашлю, лекавыя сродкі на аснове лактабактэрый, біфідумбактэрый (лінекс, лактабактэрын, біфідумбактэрын), і нават вітаміны (А, Д, В6, В12 і іншыя монавітаміны).

У дакуменце няма ні слова пра тое, што ўсе гэтыя прэпараты выключна беларускай вытворчасці.

Шэсць гадоў таму кіраўнік дзяржавы падпісаў указ №139, у адпаведнасці з якім дзеці ва ўзросце да трох гадоў атрымліваюць лекі бясплатна.

У дакуменце не гаварылася пра тое, што дзецям, якія жывуць у сталіцы, могуць выпісаць імпартныя прэпараты, а іх аднагодкам, якія нарадзіліся ў райцэнтры, — толькі беларускія.

Тады чаму, каб атрымаць тое, што належыць твайму дзіцяці па законе, трэба ісці на канфлікт з лекарам? Мне няёмка бачыць, як добры лекар, які лечыць маё дзіця, пачуўшы пытанне пра бясплатныя лекі, апускае вочы.

І як тут ні прыгадаць словы Аляксандра Лукашэнкі, які лічыць, што «нідзе ў свеце няма такой падтрымкі мацярынства і дзяцінства, як у Беларусі».

Валерый Анатольевіч, ці ведаеце вы, як выглядае картка ўліку льготнага водпуску лекавых сродкаў, якую выдаюць у дзіцячай паліклініцы мамам дзяцей да трох гадоў? Тоненькі аркушык паперы, які рвецца, не паспееш да яго дакрануцца.

Вось як выглядае на самай справе «беспрэцэдэнтная падтрымка мацярынства і дзяцінства» ў нашай краіне.

У мяне складваецца ўражанне, што лекарам пад пагрозай пазбаўлення прэмій забаранілі выпісваць лекі па льготных рэцэптах. Бо чым яшчэ можна растлумачыць такія паводзіны, я не ведаю.

Асабіста я бачу два выхады з сітуацыі, якая склалася:

1. Адмяніць льготы на лекі для дзяцей да трох гадоў — бо фактычна яны не дзейнічаюць. Выйграюць ад гэтага і мамы, і лекары, якім не давядзецца канфліктаваць з гэтай нагоды.
2. Зрабіць так, каб льгота працавала, і лекары самі прапаноўвалі мамам выпісаць прэпараты, якія неабходныя іх дзецям. І пры гэтым зыходзілі з прынцыпу эфектыўнасці лячэння, а не яго таннасці для бюджэту.

**«Салідарнасць», пераклад НЧ**

# Падалі новую заяўку на мітынг і канцэрт 25 сакавіка

**Заяўнікі шэсця і мітынгу 25 сакавіка, прысвечаных 100-годдзю Беларускай Народнай Рэспублікі, атрымалі 28 лютага адказ з Мінгарвыканкаму, паведамляе «Радыё Свабода».**

Улады не дазволілі шэсце з плошчы Якуба Коласа па праезнай частцы праспекту Незалежнасці і мітынг-канцэрт на плошчы Свабоды.

Мінгарвыканкам сцвярджае, што заяўка аб правядзенні масавых мерапрыемстваў не адпавядала патрабаванням закона аб масавых мерапрыемствах і рашэнню Мінгарвыканкама аб вызначэнні месцаў для правядзення масавых акцый.

У адказе адзначаецца, што сустаршыня БХД Вольга Кавалькова не можа быць арганізатарам масавага мерапрыемства, бо цягам мінулага года «прыцягвалася да адміністрацыйнай адказнасці за парушэнне парадку арганізацыі ці правядзення масавага мерапрыемства».

Яшчэ адну падставу для адмовы ўлады знайшлі ў тым, што на інтэрнэт-сайтах размяшчаліся тэматычныя паведамленні, інтэрв'ю, заклікі да ўдзелу ў святкаванні да атрымання дазволу.

Таксама, паводле ўладаў, абраныя заяўнікамі месцы збору і правядзення акцый не адпавядаюць закону і рашэнню Мінгарвыканкаму аб вызначэнні месцаў для правядзення масавых акцый.

Заяўка была пададзена 25 студзеня ад імя шэрагу палітычных партый і грамадскіх арганізацый. У іх ліку Партыя БНФ, «Беларуская хрысціянская дэмакратыя», АГП, Рух «За Свабоду», Рух салідарнасці «Разам», Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада Станіслава Шушкевіча, Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада) Валянціны Вештарт, Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Народная Грамада) Міколы Статкевіча, незалежны прафсаюз РЭП, «Беларускі рух», арганізацыя «Дзея», «Еўрапейская Беларусь».

***

Ліст з просьбай аб сустрэчы са старшынёй Мінгарвыканкаму Андрэем Шорцам, які падпісалі 13 прадстаўнікоў аргкамітэту, быў пададзены ў Мінгарвыканкам яшчэ 25 студзеня. У ім прасілі дазволіць на 25 сакавіка не толькі традыцыйнае шэсце і мітынг (якія дазваляюць далёка не заўсёды, нярэдка брутальна разганяюць), але і канцэрт у цэнтры гораду.

Летась на заяўку аб акцыі на Дзень Волі адказалі са спазненнем — у парушэнне законаў не за пяць дзён да акцыі, а ўвечары напярэдадні яе. Пісьмова дазволілі акцыю ў іншым месцы, вусна ж Шорац забараніў любыя акцыі 25 сакавіка. Але за тыя парушэнні нікога не пакаралі.

«Недазабароненую» акцыю на 25 сакавіка 2017 году жорстка разагналі (спачатку некаторых людзей прапускалі праз турнікеты да Акадэміі навук, потым там і затрымлівалі). Каля сотні затрыманых былі пакараныя штрафамі і адміністрацыйнымі арыштамі.

# Кобрыну — Дзень беларускага пісьменства

Марат ГАРАВЫ

**Жыхары Кобрына пачалі збор подпісаў за правядзенне ў горадзе Дня беларускага пісьменства і друку.**

У лісце да старшыні нацыянальнага аргкамітэту па падрыхтоўцы Дня беларускага пісьменства і друку, намесніка прэм'ер-міністра Васіля Жарко адзначаецца, што старажытны горад беларускага Палесся Кобрын, які ўпершыню пісьмова ўзгадваецца ў Іпацьеўскім летапісе ў 1287 годзе, прыгожа стаіць на берагах ракі Мухавец паміж каналамі Дняпроўска-Бугскім і Каралевы Боны, мае гераічнае і цікавае мінулае.

З гістарычнай Кобрыншчынай непасрэдна звязаныя лёсы этнографа Паўла Шпілеўскага, братоў Крашэўскіх — пісьменніка, гісторыка Юзафа і мастака, фатографа Люцыяна, літаратара, мастака і музыкі Напалеона Орды, брата Адама Міцкевіча, прафесара права Кіеўскага і Харкаўскага ўніверсітэтаў Аляксандра Міцкевіча, кіраўнікоў і актыўных удзельнікаў нацыянальна-вызвольных паўстанняў 1794 і 1863–1864 гадоў Тадэвуша Касцюшкі, Рамуальда Траўгута, Густава Радавіцкага, Фелікса Ягміна і Уладзіслава Малахоўскага, аднаго з айцоў-заснавальнікаў Беларускай Народнай Рэспублікі Пятра Крачэўскага, першага прэзідэнта Дзяржавы Ізраіль Хаіма Вейцмана і амерыканскага матэматыка Оскара Зарыскага, а таксама ўкраінскага паэта Тараса Шаўчэнкі, польскай пісьменніцы Марыі Радзевіч, рускіх літаратараў Аляксандра Грыбаедава, Канстанціна Паўстоўскага і Аляксандра Твардоўскага, расійскага вайскаводцы Аляксандра Суворава.

Кобрын — чароўны заходнебеларускі горад з сучаснай інфраструктурай, які і па сёння захаваў старадаўняе планіровачнае аблічча свайго гістарычнага цэнтру і асноўныя элементы гарманічнага архітэктурнага ландшафту.

Сярод помнікаў дойлідства краю — гістарычная забудова цэнтру Кобрына, будынкі святыняў, у тым ліку старадаўніх драўляных цэркваў, былой паштовай станцыі сярэдзіны XIX стагоддзя, сядзібны дом Аляксандра Суворава XVIII стагоддзя і старадаўні парк імя расійскага генералісімуса, а таксама ветраны млын у вёсцы Балата.

Кобрынцы рупліва шануюць сваю багатую духоўную спадчыну, у тым ліку скарбы народнай мовы ў выглядзе мясцовых гаворак, якія маюць шмат агульнага з гаворкамі паўночных раёнаў Валынскай і Ровенскай абласцей Украіны, а таксама рысы іншых славянскіх, балцкіх і германскіх моваў.

Сярод строяў Заходняга Палесся асаблівай завершанасцю формаў і віртуознай распрацоўкай арнаменту жаночага касцюма вылучаецца Кобрынскі строй, які бытаваў у краі ў XIX — на пачатку XX стагоддзяў.

Жыхары горада просяць Васіля Жарко запланаваць менавіта ў Кобрыне правядзенне Дня беларускага пісьменства і друку 2019 года. Падпісанты ліста ўпэўненыя, што прызначэнне Кобрына сталіцай гэтага рэспубліканскага свята, якое арганізуецца штогод у першую нядзелю верасня, будзе спрыяць духоўнаму адраджэнню кабрынчанаў і пашырэнню ўжывання сярод іх роднай мовы — мовы тытульнай нацыі Рэспублікі Беларусь.

# Колькі сем'яў апынулася за рысай беднасці

**За нацыянальнай рысай беднасці ў кастрычніку-снежні мінулага года знаходзіліся 4,2% сем'яў. Гэта вынікае з дадзеных Белстата па выбарачным абследаванні хатніх гаспадарак па ўзроўні жыцця. Годам раней гэты паказнік складаў 4,4%.**

Па дадзеных перапісу насельніцтва ў 2009 годзе, у Беларусі зарэгістравана 3 мільёны 873 тысячы 139 хатніх гаспадарак. Атрымліваецца, што за нацыянальнай рысай беднасці ў чацвёртым квартале мінулага года знаходзілася амаль 162,7 тысячы сем'яў.

Часцей за ўсё за мяжой беднасці аказваюцца сем'і з дзецьмі да 18 гадоў — 8,6% да агульнай колькасці хатніх гаспадарак гэтай групы (годам раней — 9%). Сярод сем'яў без дзяцей гэты паказнік складае 1,9% (годам раней — 2,2%).

Калі параўноўваць па рэгіёнах, то больш за ўсё бедных сем'яў у чацвёртым квартале мінулага года было ў Гомельскай вобласці — 5,9% ад усіх хатніх гаспадарак, а менш за ўсё — у Мінску (1,1%). Для параўнання: у Брэсцкай вобласці гэты паказчык складае 5,7%, у Віцебскай — 5%, у Магілёўскай — 5,1%, у Мінскай — 3,9%, а ў Гродзенскай — 3,2%.

У Беларусі малазабяспечанымі лічацца тыя, чые сярэднедушавыя наяўныя рэсурсы былі ніжэй за бюджэт пражытачнага мінімуму, або 197,81 рубля ў месяц па дадзеных на снежань.

Пры гэтым няма ніякіх падстаў лічыць, што сітуацыя бліжэйшым часам хоць у нечым палепшыцца.

**Паводле finance.tut.by**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# «Хай няма, затое — сваё!»

Сяргей САЛАЎЁЎ

**На тыдні мы ледзь не нарваліся на буйныя непрыемнасці. Стварыў іх, як ужо амаль звычайна адбываецца, «старэйшы брат», ці «верны саюзнік».**



Спачатку Расія паведаміла, што з 26 лютага забараняе ўвоз з Беларусі малака, вяршкоў і іншай малочнай прадукцыі. У спісе забароненых — малако і вяршкі пастэрызаваныя, стэрылізаваныя і ўльтрапастэрызаваныя налівам; малако і вяршкі сухія, канцэнтраваныя, кансерваваныя і згушчаныя; сыроваткі малочныя наліўныя канцэнтраваныя, сухія; канцэнтрат сыроватачнага і малочнага бялку. То бок, амаль уся беларуская «малочка».

Прычым аргументацыя забароны даволі дзіўная. «Рассельгаснагляд» кажа пра тое, што ад нас у Расію пастаўляюцца нейкія фальсіфікаты. Напрыклад, расійскі бок адзначае, што з Беларусі паспрабавалі ўвезці 150 тысяч тон забароненай да ўвозу ў Расію прадукцыі «пад выглядам вытворцаў краін, якія не патрапілі пад дзеючыя абмежаванні (Іран, Македонія, Сан-Марына і Кітай)». «"Рассельгаснагляду" спатрэбіўся ўсяго адзін дзень для таго, каб звязацца з ветэрынарнымі службамі Ірана, Македоніі, Сан-Марына і Кітая і атрымаць ад іх адказ, што дадзеная прадукцыя на адрас беларускіх і расійскіх атрымальнікаў не адгружалася», — растлумачылі ў братэрскім кантралюючым ведамстве.

Пад гэтую фішку вырашылі забараніць беларускае малако.

Але тут шмат дзіўнага. Па-першае, высветлілася, што тыя 150 тысяч тон «забароненай прадукцыі» тычыліся зусім не малака, а сыру і так званай «сырападобнай» масы. Па-другое, чамусьці ні ў якіх краінах, апроч Расіі, да беларускага малака прэтэнзій не з'яўляецца. Ні ва Украіне, ні ў Казахстане, дзе таксама п'юць беларускае. Толькі Расія выказвае прэтэнзіі і забараняе беларускую «малочку». Па-трэцяе, заклапаціліся самі больш разумныя за чыноўнікаў-кантралёраў расіяне. Па дадзеных Нацыянальнага саюза вытворцаў малака Расіі, дэфіцыт гэтага прадукту ў краіне, па розных ацэнках, складзе 7–8 мільёнаў тон. І на 90 працэнтаў гэты дэфіцыт пакрываюць пастаўкі з Беларусі.

«Маскоўскі камсамолец» нават спрагназаваў, што ў выніку чарговай «малочнай вайны» расіяне не атрымаюць не толькі само малако: узнікне дэфіцыт нават хлеба. «Па вялікім рахунку, забарона ўведзена на сыравіну, неабходную для расійскіх прадпрыемстваў: кандытарскіх і хлебапякарняў. Вытворцы расійскіх сыроў, салодкага і іншай прадукцыі на аснове малака могуць адчуць дэфіцыт сыравіны», — прыводзіць газета словы фінансавага кансультанта «ТэлетрэйдБел» Міхаіла Грачова. А як паведаміў выканаўчы дырэктар «Саюзмалака» Арцём Бялоў, сёння Расія імпартуе 60–70% сухога малака для перапрацоўкі, на Беларусь прыпадае 75–80% гэтых паставак.

Наш прадстаўнік у Еўразійскай эканамічнай камісіі Сяргей Сідорскі абскардзіў расійскае эмбарга. І «Рассельгаснагляд» перанёс увядзенне абмежаванняў на 18.00 6 сакавіка 2018 года.

Але я думаю, што нашым вытворцам «малочкі» трэба было ўсё роўна перастаць адгружаць прадукцыю на расійскі рынак ужо зараз. На знак пратэсту. Пацярпеўшы адзін месяц, і папрацаваўшы яго «на склад», мы б назаўсёды пазбавіліся прэтэнзій «Рассельгаснагляду». І, цалкам можа быць, што такая кантора ўвогуле б знікла з гарызонту.

Чаму? Усё проста. Як вядома, 18 сакавіка ў Расіі — прэзідэнцкія выбары. А стварыць у краіне штучны дэфіцыт малака, батонаў ды сыроў (што, адпаведна, будзе не толькі дэфіцытам, а прывядзе і да скачку цэнаў на расійскую прадукцыю) — гэта ж дыверсія нацыянальнага маштабу ў дачыненні да нашага горача любімага некаторымі коламі Уладзіміра Уладзіміравіча Пуціна. І калі б бліжэй да 18-га дарагія расіяне не здолелі б набыць малака — Пуцін бы, безумоўна, пачаў разбірацца, што ж здарылася. І пабачыў, што здараўся «Рассельгаснагляд». Што менавіта гэтае ведамства падклала яму такую свінню… І лёс гэтай канторы быў бы вырашаны.

Але ў нас, насамрэч, хапае і іншых праблемаў. Прынамсі, нейкія дзіўныя працэсы ідуць у атачэнні кіраўніка дзяржавы. На гэтым тыдні Аляксандр Рыгоравіч другі раз за месяц наладзіў маштабны разнос сілавікам. Толькі 13 лютага ён праводзіў пасяджэнне Савета бяспекі, на якім указаў Шуневічу на неабходнасць выкаранення «п'янага кіравання аўтамабілямі», найперш з боку супрацоўнікаў МУС, і заклікаў лавіць па палях «круцякоў на квадрацыклах». І вось 27 лютага — яшчэ адно пасяджэнне Савета бяспекі. І зноў гэтым разам дасталося Шуневічу. Маўляў, скарачэнне злачыннасці на 7 працэнтаў у год — «насцярожвае», бо ўзнікаюць сумневы ў такім вясёлкавым малюнку свету. І трэба бачыць рэальныя праблемы, а не хавацца за статыстыкай. Зараз Лукашэнка заклікаў папярэджваць гвалт у сям'і і паляваць за распаўсюджвальнікамі наркотыкаў, а не «ганяцца за драбязой».

Мажліва, нехта ўсё ж падключыў Аляксандру Рыгоравічу інтэрнэт, бо кіраўнік дзяржавы б'е па тых самых кропках, па якіх дзяўбе Шуневіча і неабыякавая грамадскасць. Зусім нядаўна ў Мінску прайшла акцыя супраць жорсткіх тэрмінаў за «траўку», і праз кароткі час гэтая тэма ўзнікае на пасяджэнні Саўбезу…

У любым выпадку, Лукашэнка ўсур'ёз займаецца сілавым блокам. Чаму зараз, чым гэта выклікана і да чаго гэта прывядзе — застаецца толькі здагадвацца.

Добрая навіна ў нас і ў эканоміцы. Мы пакрыху сплачваем пазыкі. Праўда, пры гэтым набіраем новыя, але ўсё ж… Знешні дзяржаўны доўг Беларусі на 1 лютага 2018 года склаў $15,8 мільярда і зменшыўшыся з пачатку года на $950,5 мільёна, або на 5,7%, паведамілі БелТА ў Міністэрстве фінансаў. Пагашэнне знешняга дзярждоўгу з пачатку 2018 года склала $1 мільярд 72 мільёны, з якіх $800 мільёнаў — еўрааблігацыі, $227,4 мільёна — банкам КНР, $44,7 мільёна — ураду Расіі.

А яшчэ дзяржава нарэшце задумалася, каб прадаць нешта непатрэбнае. На нарадзе ў кіраўніка дзяржавы ішла размова пра продаж дзярждолі ў мабільным аператары life:) Зараз гэтая доля складае 20%, астатнія акцыі належаць турэцкай «Turkcell».

Насцярожвае тое, што Лукашэнка папярэдзіў: прыватызацыя аператара павінна ісці «ў адпаведнасці з агульнапрынятай практыкай». «Мы хочам прадаць, хто-небудзь хоча купіць, калі ласка, гандлюемся, выстаўляем на конкурс, на тэндэр — хто больш заплаціць, таму і прададзім», — сказаў ён.

«Можа быць, ёсць інвестар, які нас зможа здзівіць і прапанаваць супервыгадныя ўмовы. Гэта таксама прымаецца», — марыць кіраўнік дзяржавы.

Марыць — не шкодна. Але 51% акцый МТС мы прадавалі гадоў дзесяць — ды так і не прадалі. Мажліва, 20% прадаць лягчэй, чым 51%.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Мікалай Статкевіч



**Былы палітвязень і кандыдат у прэзідэнты быў пераабраны старшынёй аргкамітэта па стварэнні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада).**

Адпаведнае рашэнне прынялі 25 лютага дэлегаты IV сесіі Ўстаноўчага з'езда арганізацыі ў Мінску. Старшыню абралі таемным галасаваннем, у якім прынялі ўдзел 52 дэлегаты. Яны аднагалосна падтрымалі пераабранне Статкевіча.

«Для мяне гэта гонар. Я паспрабую апраўдаць ваш давер. Буду ісці да канца, каб рэалізаваць нашы мэты і задачы», — заявіў палітык.

Аргкамітэт па стварэнні БСДП (Народная Грамада) устрымаецца ад афіцыйнай рэгістрацыі. Як адзначыў Статкевіч, цяпер няма сэнсу рэгістравацца, бо ўлады ўжо шмат гадоў прымаюць толькі адмоўныя рашэнні пры спробах апазіцыйных партый дамагчыся афіцыйнага статусу. Акрамя таго, рэгістрацыя патрабуе падачы ў Мінюст пераліку ўсіх заснавальнікаў партыі, што дазволіць уладам атрымаць звесткі пра іх для аказання ціску.

Пры гэтым Статкевіч выказаў упэўненасць, што прыйдзе час, калі БСДП (Народная Грамада) будзе афіцыйна зарэгістраваная.

## Андрэй Бяляўскі



**Былы фігурант «Справы патрыётаў» падаў апеляцыйную скаргу на прысуд Ленінскага раённага суда Мінска, які пакараў яго годам «хатняй хіміі» за захоўванне аднаго патрона.**

Бяляўскі лічыць, што год абмежавання волі, хоць і без накіравання ў папраўчую ўстанову, пры прызнанні віны і пры раскаянні — неадэкватнае ўчынку пакаранне. Разгляд скаргі ў Мінскім гарадскім судзе прызначаны на 27 сакавіка.

Нагадаем, Бяляўскі быў затрыманы 21 сакавіка і абвінавачаны па ч. 3 арт. 293 Крымінальнага кодэксу «Навучанне і падрыхтоўка да ўдзелу ў масавых беспарадках» і арт. 287 КК «Стварэнне незаконнага ўзброенага фармавання». Адпушчаны з СІЗА КДБ пад падпіску аб нявыездзе 2 чэрвеня са спыненнем справы па арт. 293 КК. Падчасператрусу пасля затрымання ў яго быў знойдзены спраўны патрон.

Напрыканцы лістапада СК спыніў «Справу патрыётаў», а ў адносінах да Бяляўскага была заведзена справа аб захоўванні боепрыпасаў. 12 студзеня суддзя Ленінскага раёна Марына Запаснік прызнала Бяляўскага вінаватым і прызначыла яму абмежаванне волі на год без накіравання ў папраўчую ўстанову. Менавіта такое пакаранне запрасіў пракурор Аляксей Кісляк.

Адвакат настойваў на тым, што захаванне патрона не можа насіць грамадскай небяспекі, і прасіў прымяніць больш мяккае пакаранне, ніжэй за мінімальнае.

## Сяргей Далідовіч



**Беларускі лыжнік хаця і вымушаны быў зняцца з-за хваробы са спаборніцтваў на Алімпіядзе ў Пхёнчхане, але прывёз адтуль новыя магчымасці.**

Далідовіч вырашыў выставіць на дабрачынны аўкцыён на пляцоўцы аб'яваў «Куфар» алімпійскія акуляры з Ліліхамера і смартфон з Пхёнчхана. Атрыманыя ад продажу лотаў грошы будуць перададзеныя выхаванцам Андрэеўскага дзіцячага дома каля Оршы, роднага горада спартсмена.

Акуляры «Ray Ban» з Алімпіяды 1994 года ў Ліліхамеры — легендарныя «Wayfarer», выкананыя ў чорна-бэжавых колерах. Дужкі акуляраў упрыгожвае зімовы арнамент сіняга колеру і стылізаваныя фігуркі спартсменаў: лыжнікаў, канькабежцаў, бабслеістаў. За мяжой кошты на падобную мадэль могуць даходзіць да 400–500 долараў. Другім лотам стане флагманскі смартфон «Galaxy Note 8» з Алімпіяды–2018 у Пхёнчхане. У адкрыты продаж мадэль ніколі не паступала: «Samsung» зрабіў усяго 4000 прылад, якія былі ўручаны ўсім спартсменам Алімпіяды ў Паўднёвай Карэі, а таксама ўдзельнікам арганізацыйнага і Алімпійскага камітэтаў.

Стартавая цана для акуляраў «Ray Ban» — 200 рублёў, смартфона «Galaxy Note 8» — 1800 рублёў. Кошт лотаў мяняецца ў рэжыме рэальнага часу, у залежнасці ад прапаноў. Уладальнікамі рэчаў з алімпійскай сімволікай стануць пакупнікі, якія прапануюць самую высокую цану на момант заканчэння аўкцыёну.

а | Азбука паліталогіі

# Кароткі курс гісторыі пераходнага перыяду



Сяргей НІКАЛЮК

**У палітыцы, як і ў жыцці, няма нічога больш пастаяннага, чым часовае**




Чым добрая «беларуская мадэль»? Калі верыць адзінаму палітыку (АП), яна даказала сваю эфектыўнасць для пераходнага перыяду развіцця дзяржавы. Іншага і не магло быць з мадэллю, пабудаванай народам, які «жыве сваім розумам, абыходзіцца ўласнымі сіламі, не шукае пракорду ў чужой айчыне і ніколі не будзе закладнікам знешніх уплываў».

Нешта мне гэты пералік нагадаў. Я звярнуўся па дапамогу да інтэрнэту — і адразу ж знайшоў першакрыніцу: «Мы за апору на ўласныя сілы!» Ну як жа я мог забыць пра вялікага правадыра кітайскага народа Маа Цзэдуна! Гэта пад яго мудрым кіраўніцтвам кітайцы ў 1958 годзе ўласнаручна стварылі экалагічную катастрофу. Знішчыўшы вераб'ёў, яны справакавалі нашэсце саранчы. У выніку збор рысу спачатку крыху вырас, а потым спікіраваў.

Поспех да кітайцаў прыйшоў толькі пасля таго, як яны да свайго розуму дадалі чужы, да ўласных сілах — сілу найбуйнейшых транснацыянальных карпарацый, да сваіх пракорду (Дэн Сяапіна, напрыклад) — чужых, накіраваўшы сотні тысяч маладых людзей у лепшыя амерыканскія ўніверсітэты. Але калі кітайцы ўпісаліся ў працэс глабалізацыі, зрабілі сваю эканоміку закладніцай не толькі сусветнага росту, але і сусветных крызісаў.

У сакавіку 2002 года, выступаючы з праграмным дакладам, прысвечаным «беларускай мадэлі», АП правёў смелую паралель паміж вопытам Беларусі і Кітая: «І ў іх, і ў нас выявіліся такія асаблівасці пераходнага перыяду (вылучана. — С.Н.), як рэгулюючая роля дзяржавы, прынцып эвалюцыйных пераўтварэнняў, стварэнне моцнай і эфектыўна дзеючай вертыкалі дзяржаўнай улады, дакладная сістэма заканадаўства, якая забяспечвае агульнасць інтарэсаў дзяржавы і кожнага яе грамадзяніна паасобку, беражлівае захаванне таго добрага, што было створана раней, а не бяздумнае яго разбурэнне».

### Два тыпы бандытаў

Чаму ж тады пры максімальным падабенстве вопыту вынік атрымліваецца процілеглым, нават калі два вопыты аб'ядноўваюцца ў працы над агульным праектам? Уся справа — у рознай прыродзе сілы і эфектыўнасці вертыкаляў дзяржаўнай улады.

Асноўнай сельскагаспадарчай культурай Кітая на працягу тысячагоддзяў быў рыс. Яго вырошчванне запатрабавала стварэння гіганцкіх ірыгацыйных сістэм. Без цэнтралізаванай дзяржавы, здольнай не толькі мабілізаваць насельніцтва для сумеснай працы, але і вырашаць складаныя інжынерныя задачы, рэалізацыя праектаў такога маштабу была б немагчымая. Вось чаму, каб займаць дзяржаўныя пасады, яшчэ з часоў Канфуцыя (551–479 гг. да н.э.) кандыдаты ў чыноўнікі павінны былі здаваць экзамены.

Родная ж «дзяржава для народа» з'яўляецца правапераемніцай дзяржаў, чыю прыроду найлепшым чынам апісвае мадэль «аселага бандыта» амерыканскага эканаміста Мансура Олсана.

У адрозненне ад «бандыта-гастралёра», мэтай якога з'яўляецца атрыманне максімальнай выгады ў рэжыме «тут і цяпер», «стацыянарны бандыт» імкнецца ўзяць пад свой кантроль пэўную тэрыторыю для атрымання даходаў у доўгатэрміновай перспектыве. Але для гэтага асаблівых інжынерных здольнасцяў не трэба. Галоўная функцыя такой дзяржавы — ваенна-паліцэйская. Ваенная — для абароны свайго насельніцтва ад набегаў чужых «бандытаў-гастралёраў» (хто ж хоча дзяліцца!). Паліцэйская — для збору даніны з падданых.

Са сказанага вышэй становіцца зразумела, чаму кітайскія таварышы на працягу тысячагоддзяў здолелі на практыцы рэалізаваць савецкую мару пра адзінства партыі (дзяржавы) і народа. Без такога адзінства не змагла б выжыць ні дзяржава, ні народ.

Нясмелая ж спроба Гарбачова разбавіць савецкую цэнтралізаваную сістэму дазаванай колькасцю галоснасці прывяла да страты кіравальнасці і краху дзяржавы, а ў рамках мадэлі, якая паўстала на абломках сацыялізму, так і не ўдалося сфармаваць рынкавыя механізмы самаарганізацыі.

«У адрозненне ад савецкай, — тлумачыць акадэмік Сяргей Глазьеў, — кітайская сістэма кіравання эканомікай навучылася яе тэхналагічна і інстытуцыйна перабудоўваць, своечасова згортваць састарэлыя вытворчасці, адсякаючы ад рэсурсаў неэфектыўныя прадпрыемствы і дапамагаючы перадавікам асвойваць найноўшыя тэхналогіі». Пры гэтым дзяржава захавала цэнтралізаванае кіраванне ў фінансавай сферы, у інфраструктурных і базавых галінах, якія забяспечваюць умовы для росту прадпрымальніцкага сектара.

### Хацець не шкодна

17 лістапада 2017 года спраўдзілася мара АП. Ён адкрыў пад Барысавам сумеснае беларуска-кітайскае прадпрыемства па зборцы легкавых аўтамабіляў «Джылі». Была абвешчана бліжэйшая задача — выхад на вытворчасць 60 тысяч аўтамабіляў на год. Планавалася, што калі гэта задача вырашыцца, «мы будзем павялічваць магутнасць у два разы» — да 120 тысяч.

І што мы маем па факце на сённяшні дзень? Адкрываем афіцыйную статыстыку. Вытворчасць легкавых аўтамабіляў у снежні 2017 года да снежня 2016 года склала 28,9% — гэта значыць, што запуск завода прывёў да скарачэння вытворчасці ў 3,5 разы! Ну зусім як у папулярнай рэкламе шакаладнага батончыка: «Шок — гэта па-нашаму!»

Згодна з наяўнай інсайдарскай інфармацыяй, што маецца ў аўтара «Азбукі паліталогіі», у лютым на канвееры пад Барысавам збіраліся 3–4 аўтамабілі на дзень. Цэх афарбоўкі падвёў. Ці то пэндзлікі апынуліся не таго ДАСТа, ці то якасць фарбы падвяла. Я не ведаю. Але завод у пажарным парадку вымушаны перагледзець першапачатковыя напалеонаўскія планы і рыхтаваць да скарачэння персаналу. У гэтай сувязі нагадаю чытачам

**Поспех да кітайцаў прыйшоў тады, калі яны да свайго розуму дадалі чужы, да ўласных сіл — сілу найбуйнейшых карпарацый, да сваіх пракорду — чужых, накіраваўшы сотні тысяч маладых людзей у лепшыя ўніверсітэты**

яшчэ адно выказванне АП ад 17 лістапада 2017 года: «Хачу, каб гэта прадпрыемства было рэнтабельным. У адваротным выпадку атрымаецца цацка, ваша і мая, на якую будзем глядзець, радавацца і прадаваць 10 тысяч аўтамабіляў на год, не маючы даходу на гэтым прадпрыемстве. Для выхаду на рэнтабельнасць неабходна рэалізоўваць мінімум 35 тысяч аўтамабіляў на год».

Хацець не шкодна, шкодна не хацець. На двары ўжо сакавік, а на сайце завода пад Барысавам у раздзеле «Вакансіі» размешчана інфармацыя за 2017 год.

### Мост з аднабаковым рухам

Поспех кітайскай мадэлі не ў апошнюю чаргу тлумачыцца тым, што яна стартавала з нізкай базы. Згодна з перапісам 1964 года, у сельскай мясцовасці пражывала 81,7% насельніцтва краіны. Такім чынам, транснацыянальным карпарацыям было адкуль чэрпаць працоўную сілу, якая прызвычаілася працаваць ад ранку да цямна «за талерку рысу». Аднак ужо ў 2014 годзе сярэднестатыстычны кітаец зарабляў 733 долары на месяц, апярэдзіўшы ў паўтара разы паводле гэтага крытэру рускіх. Цалкам прыстойны заробак для краіны, якая здзейсніла пераход з аграрнай у індустрыяльную эканоміку!

Ці будзе Кітай гэтак жа паспяховы пры пераходзе да постіндустрыяльнай эканомікі — пытанне адкрытае. Свет не ведае паспяховых прыкладаў падобнага пераходу ва ўмовах манаполіі камуністычнай партыі на ідэалогію.

На стадыі пераходу, калі меркаваць па шматлікіх заявах АП, знаходзіцца і «беларуская мадэль». Аднак я не ўпэўнены, што галоўны архітэктар мадэлі ўсведамляе, адкуль і куды гэты пераход ажыццяўляецца. Маю няўпэўненасць пацвярджае наступная цытата: «У нас вельмі моцная прэзідэнцкая ўлада, сапраўды, з элементамі аўтарытарызму, у гэтым я заўсёды сумленна прызнаваўся. Такая ў нас Канстытуцыя і законы ў гэты пераходны перыяд» (23 верасня 2004 года).

Але няма нічога больш пастаяннага, чым часовае. Мяркуючы па нежаданні АП дзяліцца ўладай, пераходны перыяд у Беларусі працягваецца. Нічога беларускага ў такім нежаданні няма. Для таго, каб у гэтым пераканацца, дастаткова паглядзець на ўсходняга суседа Беларусі.

У якасці каментара прыводзяць выказванне расійскага эканаміста Яўгена Гантмахера: «Створаныя на падставе забеспячэння стабільнасці аўтарытарныя рэжымы самі аказваюцца крыніцай узрушэнняў. Аўтакрат у сучасным грамадстве, як правіла, вымушаны пастаянна даказваць, што яго рэжым — часовая мера, пераходны перыяд, пасля якога ён абавязкова адновіць дэмакратыю».

А як інакш? Пагібель савецкай імперыі не азначала масавую смерць «чалавека савецкага», які прызвычаіўся атрымліваць даброты ад улады. Таму ад дэмакратыі да аўтарытарызму яму не было асабліва цяжка пераабрацца па мосце сумленных выбараў (прыгадаем 1994 год). Здзейсніць жа зваротны шлях ад аўтарытарызму да дэмакратыі ў «чалавека савецкага» асабліва жадання да гэтага часу не паўстала, дый мост уладнай вертыкаллю ўзяты пад кантроль.

Праблема, аднак, у тым, што ўзмацненне аўтарытарызму не вырашыла ніводнай з праблем сацыяльна-эканамічнага развіцця. «Замарожванне» палітычнай сістэмы абярнулася падзеннем эфектыўнасці дзяржавы. У канцы мінулага года АП спахапіўся і пачаў штампаваць пастановы і дэкрэты, накіраваныя на разняволенне дзелавой ініцыятывы.

Нескладана здагадацца, чым скончыцца такое «разняволенне» ў рамках эканамічнай мадэлі, у сваёй аснове не прадпрымальніцкай, а бюракратычна-алігархічнай.

Дзіяна ПІНЧУК

# Дзе заканчваецца мірны сход і пачынаецца масавае мерапрыемства




> Беларускія праваабаронцы і прадстаўнікі грамадскіх арганізацый ужо доўгі час дамагаюцца ад дзяржавы зменаў у сферы заканадаўства пра масавыя мерапрыемствы

**У апошні час ад беларускіх праваабаронцаў усё часцей можна пачуць вызначэнне «мірны сход», а не заканадаўчае «масавае мерапрыемства». Дык у чым розніца, і ці ёсць яна?**

## Сход ці «мерапрыемства»?

Канстытуцыя гарантуе нам свабоду сходаў. Сутнасць свабоды мірных сходаў — у магчымасці грамадзян, якія знаходзяцца ў грамадскім месцы, непасрэдна і публічна выказваць альбо выяўляць іншым спосабам свае думкі, перакананні адносна дзяржаўных, грамадскіх, індывідуальных праблем.

Значэнне мірнага сходу нават не столькі ў праяве поглядаў грамадзян, а ў магчымасці народа актыўна ўздзейнічаць на ўлады, выказваць пратэст іх рашэнням ці, наадварот, падтрымліваць іх, кантраляваць дзейнасць дзяржаўных органаў, патрабаваць зменаў у ажыццяўленні палітыкі.

Здавалася б, гэта — элементарныя асновы права. І нормы Канстытуцыі павінны менавіта так і трактавацца.

Але ў Беларусі мірныя сходы рэгулююцца чамусьці законам «Аб масавых мерапрыемствах». А парадак арганізацыі і правядзення масавых мерапрыемстваў перакрэслівае ўсю сутнасць гарантаванага канстытуцыйнага права. Тут і заканчваецца гарантыя мірных сходаў і пачынаецца беларуская песня пра «масавыя мерапрыемствы».

Закон «Аб масавых мерапрыемствах» прадугледжвае занадта жорсткую і складаную працэдуру атрымання дазволу на іх, што падмацоўваецца адпаведнай практыкай дзяржаўных органаў. Амаль кожны зварот арганізатараў у выканкамы аб правядзенні шэсцяў, пікетаў ці мітынгаў (за выключэннем, хіба, традыцыйных акцый) заканчваецца забаронай іх правядзення па розных, часцяком надуманых прычынах.

Факт, што выкарыстанне дазваляльнага парадку правядзення масавага мерапрыемства ў тым выглядзе, як гэта існуе ў Беларусі, парушае асновы права. Хаця б таму, што пытанне аб мэтазгоднасці ажыццяўлення правоў чалавека можа вырашаць толькі самой асобай, а любыя перашкоды з боку дзяржавы са спасылкай на немэтазгоднасць рэалізацыі правоў чалавека недапушчальныя.

Між іншым, масавае мерапрыемства і мірны сход — паняцці не тоесныя. Масавае мерапрыемства — гэта сход, для якога загадзя быў узяты дазвол на яго правядзенне ў выканкаме, а арганізатары заплацілі за паслугі міліцыі, камунальных службаў і медыкаў. Груба кажучы, людзі запыталіся ва ўлады, ці можна ім публічна выказаць свае думкі. Прыкладам могуць стаць нейкія сходы БРСМ.

Але абсурдна казаць пра правядзенне масавых мерапрыемстваў, калі былі выкананы ўсе фармальнасці, не было ніякіх супрацьпраўных дзеянняў з боку ўдзельнікаў, а ўсё заканчваецца затрыманнямі, штрафамі і суткамі. Больш за тое, улады лічаць масавым мерапрыемствам нават пікет аднаго чалавека.

Мірныя сходы — гэта права грамадзян выйсці на вуліцу і сказаць усё, што яны думаюць, разам ці паасобку, незалежна ад дазволаў дзяржорганаў. Напрыклад, у 2011 годзе, калі ў інтэрнэце ўзнікла ідэя сабрацца ўсім на Кастрычніцкай плошчы Мінска і «падзякаваць» уладзе за «разумную» эканамічную палітыку воплескамі. Грамадзяне выйшлі і проста пляскалі ў ладкі. Ці арганізаваныя год таму акцыі ў Курапатах. Гэта адназначна было мірным сходам, але не масавым мерапрыемствам з-за невыканання фармальнай працэдуры.

Таму праваабаронцы і кажуць пра хібы закона «Аб масавых мерапрыемствах» і прапануюць задумацца над свабодай сходаў.

## У свеце сходы — не толькі мірныя

Калі звярнуцца да міжнародных актаў і асноўных законаў еўрапейскіх дзяржаваў, то можна ўбачыць, што ў іх гаворка ідзе таксама пра мірныя сходы. Так, згодна з Канстытуцыяй Іспаніі, прызнаецца права збірацца мірна і без зброі. Ажыццяўленне гэтага права не патрабуе папярэдняга дазволу. Асноўны закон Германіі кажа: «Усе немцы маюць права збірацца мірна і без зброі без папярэдняй заявы або дазволу. Для сходаў пад адкрытым небам гэта права можа быць абмежаванае законам або на аснове закона».

Дарэчы, калі казаць аб тым, «як павінна быць у плане выказвання думак народа», то трэба ўзгадаць незнаёмае Беларусі права на супраціў прыгнёту. Такое палітычнае права рэдка ўключаецца ў сучасныя канстытуцыі па зразумелых на тое прычынах. Толькі ўявіце такое права ў Канстытуцыі Беларусі ці Расіі! Але яно замацавана ў канстытуцыях Германіі, Грэцыі, Славакіі, Азербайджана, Перу і некаторых іншых дзяржаў. Супраціў прыгнёту прадугледжвае прымусовыя захады народа, грамадзян у дачыненні да дзяржаўных органаў і іншых службовых асоб, калі тыя груба парушаюць канстытуцыйныя прынцыпы ці адмаўляюцца падпарадкоўвацца ім.

Відавочна, што аналагічныя палажэнні ў тым ці іншым выглядзе неабходны ў сучасных канстытуцыях. Яны нагадваюць пра адказнасць любога органа і службовай асобы перад народам, пра тое, што менавіта яны знаходзяцца на службе ў народа, а не наадварот, што народ мае права супраціўляцца неканстытуцыйнай, прыгнятальнай уладзе і змяніць яе.

## Праблемы ёсць. А хто іх вырашае?

Беларускія праваабаронцы і прадстаўнікі грамадскіх арганізацый ужо доўгі час дамагаюцца ад дзяржавы зменаў у сферы заканадаўства пра масавыя мерапрыемствы. Яны распрацавалі свой праект нарматыўнага акту «Аб свабодзе мірных сходаў», які рэгулюе права на мірныя сходы.

Прадстаўнікі валанцёрскай службы дасюль не зарэгістраванага ў Беларусі праваабарончага цэнтра «Вясна» ініцыявалі цэлую кампанію па змене закона «Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь», у межах якой стварылі сайт «Свабода сходаў у Беларусі», накіравалі шэраг зваротаў у розныя дзяржаўныя органы, распрацавалі электронны зварот у парламент з просьбай дапусціць да ўдзелу ў абмеркаванні зменаў у закон прадстаўнікоў грамадскасці.

У 2017 годзе каманда валанцёраў накіравала шэраг зваротаў у розныя дзяржаўныя органы — у Адміністрацыю прэзідэнта, у Савет рэспублікі, у Савет міністраў, у Палату прадстаўнікоў. Вынік быў адзін, але падыходы ў дзяржаўных органаў розныя, і даволі творчыя: яны згадалі і пра немэтазгоднасць, і пра еўрапейскія краіны, і нават пра ЗША.

## Неразуменне ці юрыдычная непісьменнасць?

Адміністрацыя кіраўніка Беларусі без розных замарочак перанакіравала зварот у Міністэрства ўнутраных спраў, якое, у сваю чаргу, адказала проста і коратка: «На думку МУС, з улікам правапрымяняльнай практыкі, унясенне зменаў у закон немэтазгодна».

Савет рэспублікі таксама не знайшоў падставаў для заканадаўчай ініцыятывы па змяненні закона. Яго пазіцыя грунтуецца на тым, што ў 2011 годзе ў закон ужо ўносіліся змены (яны, аказваецца, задумваюцца аб частаце зменаў заканадаўства!), на стадыі іх падрыхтоўкі вывучаўся вопыт краін СНД, ЗША і Еўропы, а таксама былі прынятыя да ўвагі «Кіруючыя прынцыпы па свабодзе мірных сходаў» БДІПЧ АБСЕ 2007 года. Таму закон, на думку Савета рэспублікі, мала чым адрозніваецца ад аналагічнага ў іншых краінах.

Зварот для Савета міністраў быў перанакіраваны ў Міністэрства юстыцыі, дзе таксама лічаць, што «беларускі закон у прынцыповых падыходах не адрозніваецца ад законаў іншых краін, а ў частцы санкцый за парушэнні ён значна больш ліберальны, чым у многіх краінах Еўропы і ЗША».

Пастаянная камісія па правах чалавека, нацыянальных зносінах і СМІ Палаты прадстаўнікоў не лічыць неабходным уносіць змены ў закон: «Адсутнасць якога-небудзь кантролю за падрыхтоўкай масавых мерапрыемстваў, скасаванне рэгламентацыі месцаў іх правядзення, непрыняцце мер па ахове грамадскага парадку, магчымасць утойвання колькасці ўдзельнікаў акцый нароўні з практычна поўным нівеляваннем адказнасці апошніх могуць стаць фактарамі, здольнымі прывесці да непрадказальных негатыўных наступстваў».

Пастаянная камісія па заканадаўстве Палаты прадстаўнікоў адпісалася безліччу адсылак да законаў (дарэчы, яны адзіныя паставілі на першае месца Канстытуцыю) і гісторыямі пра жахі, якія адбываюцца ў Германіі, Швецыі і Вялікабрытаніі.

## Петыцыя, якую мусіць падпісаць кожны

Кампанія «За свабоду мірных сходаў» распрацавала петыцыю на сервісе Zvarot.by, у якой указваецца на неабходнасць змены закона «Аб масавых мерапрыемствах». У дакуменце адзначаецца, што «права на свабоду мірных сходу ўключана ва Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека. Яно ўключана і ў Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь з маленькім дадаткам аб тым, што парадак арганізацыі і правядзення такіх сходаў вызначаецца законам. Усё б нічога, але дзейны закон занадта абмяжоўвае гэта права, уводзіць зашмат дзіўных працэдур, якія не заўсёды магчыма прайсці ўмоўнай супольнасці аматараў матылькоў, і нават калі мы гэтыя працэдуры асілім, у кожна(-га/-й) з нас могуць быць праблемы ў выглядзе затрыманняў, штрафаў і нават адміністрацыйнага арышту».

У сакавіку ў парламенце будуць разглядаць магчымыя змены ў заканадаўства. Відавочна, што дэпутаты пры распрацоўцы законаў павінны ўлічваць меркаванне людзей, а не агарошваць народ актамі кшталту Дэкрэта аб дармаедстве ці новых правілаў аб аўтамабільных перавозках.

Для гэтага і была створана петыцыя, у якой падпісанты просяць дапусціць да ўдзелу ў абмеркаваннях прадстаўнікоў РПГА «Беларускі Хельсінкскі Камітэт», ПЦ «Вясна», АПУ «Офіс па правах чалавека з інваліднасцю», ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў», ГА «Экадом» і эксперта Савета Еўропы Аляксандра Вашкевіча. Кампанія ўпэўненая, што толькі з удзелам спецыялістаў закон можа быць палепшаны.

# «Хочаш, каб твая жонка нарадзіла ў турме?..»

Алесь КІРКЕВІЧ

**Алёна — настаўніца беларускай мовы і літаратуры, колішні сябар «Маладога фронту». Ілля да зняволення займаўся тайскім боксам, трэніраваў падлеткаў. Вернікі-пратэстанты. Маладая сям'я, дзе вось-вось мела нарадзіцца дачка. Патрыёты Беларусі. Але ў нейкі момант усё пайшло не так...**

А 5-й гадзіне ранку 22 сакавіка 2016 года ў кватэру, дзе жылі Ілля з Алёнай, уварваўся спецназ. Тыя, каго ў народзе ўжо звыкла называюць «маскішоў». З імі — следчы ў цывільным з пастановай на вобшук кватэры ды арышт Іллі Валавіка за «кіраўніцтва незарэгістраванай арганізацыяй» ды «бойку».

«Мы спалі, зранку ж на працу... — узгадвае Алёна Валавік. — А тут чалавек дзесяць у поўнай экіпіроўцы, не лічачы тых, хто ў пад'ездзе ды на вуліцы. Усе ў чорным. Я стаю цяжарная, на сёмым месяцы, плачу, мне страшна, а яны сабе ў кватэры робяць сэлфі! Ім год па 20, як мне падалося, кажуць адно аднаму: «Сфоткай мяне!»

Падчас вобшуку выграблі ўсе выданні па-беларуску, усё, мінімальна звязанае з Украінай, нават каляндарыкі «Маладога фронту» за 2006 год ды кнігі Паўла Севярынца. Довады Алёны, маўляў, гэта яе рэчы, а не мужа, не падзейнічалі:

«Я спачатку даводзіла, маўляў: «Гэта маё, што вы робіце?! Тады і тэлевізар здымайце, усё бярыце!» Вынеслі ж і тэхніку, і кампутары, і флэшкі... А мне ў адказ: «Будзеш вазнікаць, не паглядзім на цяжарнасць, паедзеш за ім». Такая размова», — працягвае Алёна.

Але следчага цікавіла не столькі «агітацыя», колькі... адзежа. Усе летнія рэчы, уключна з футболкамі, красоўкамі ды заплечнікамі, прыхапілі, каб праверыць на сляды газу. Заплечнік, з якім зараз ходзіць Алёна, таксама з дзірачкамі — слядамі экспертызы.

«Я выклікала хуткую, мне ж страшна за дзіця. Лекар заходзіць, бачыць усё гэта, мой стан, кажа: «Вам тэрмінова ў лякарню, пагроза выкідышу!» Перапужаў яшчэ больш... Пасля ў тым шпіталі я даведку брала аб пагрозе выкідышу, каб прадставіць у Следчы камітэт: быў шанец, што Іллю выпусцяць пад падпіску. Але — ніяк», — узгадвае дзяўчына.

## Тайскі баксёр са шляхецкім радаводам

...А пачалося ўсё ў 2013 годзе, калі Алёна Макарэвіч ды Ілля Валавік пазнаёміліся на турніры па тайскім боксе, які Ілля акурат арганізоўваў. Дзяўчына на той момант займалася класічным боксам, але з часам, пад уплывам хлопца, змяніла кірунак на тайскі. Агульным захапленнем пары апынулася айчынная гісторыя, а яшчэ Іллі вельмі спадабалася спецыяльнасць Алёны: настаўнік беларускай мовы ды літаратуры. У 2015-м яны ажаніліся.

Хто ж ён такі, Ілля Валавік? На той момант хлопец быў выступаючым байцом па тайскім боксе. Займаўся прафесійна, трэніроўкі праходзілі шэсць, а часам і сем разоў на тыдзень. У дадатак працаваў менеджэрам на бетонным заводзе, паралельна вучыўся ва ўніверсітэце — энергіі хапала на ўсё. Напярэдадні пасадкі займаўся продажам запчастак. Як прыйшоў да беларушчыны? Гэта адбылося яшчэ ў школе.

«Яму трапіўся вельмі добры рэпетытар. Ён распавядаў, што з таго часу для яго ўсё перавярнулася. Ілля ў добрым сэнсе апантаны, фанатык усяго гэтага. Мог увесь вольны час сядзець на гістарычных форумах, чытаць, пісаць каментары, яго гэта чапляла. Балаховіч, дарэчы, быў ягоным кумірам», — распавядае Алёна.

Магчыма, не апошнюю ролю ў цікавасці да гісторыі адыгралі... гены. Бацька Іллі — патомны вайсковец, афіцэр Генштаба. Маці працавала ў зелянбудзе. Але калі капнуць глыбей, то па маці ён — нашчадак роду Бутрымовічаў. Тых самых, што вядуць пачатак ад баярына-ліцвіна Бутрыма, які ўдзельнічаў у падпісанні Гарадзенскай уніі ў 1413 годзе. Бутрымовічы адыгрывалі не апошнюю ролю пры двары ўжо ў XVIII стагоддзі, у Пінску дагэтуль захаваўся іхны палац.

Яшчэ адным захапленнем Іллі быў фанацкі рух. Ён быў заўзятарам ФК «Партызан», але перастаў хадзіць на матчы прыкладна ў 2012 годзе. З аднаго боку, пасталеў разам са сваімі аднагодкамі, з'яўляліся іншыя прыярытэты: праца, самарэалізацыя, перспектыва сям'і. З іншага — асабліва пасля Майдану ў Кіеве, органы пачалі надаваць беларускаму фанацкаму руху зашмат увагі: заўзятараў здымалі на камеры перад заходам на сектар, а пасля развозілі па аўтазаках па розных частках горада. Ніхто не хацеў трапляць у базы, мець праблемы, таму на матчы пэўная частка фанаў наўпрост перастала хадзіць. Сярод іх апынуўся і Ілля.



«Сякера» — герб роду Бутрымовічаў, якім ганарыцца Ілля



Ілля Валавік




Ілля і Алёна

## «Чаго ты цягаешся з гэтымі наркотамі?»

Сваю энергію, харызму, лідарскія якасці, пры гэтым, атрымалася прыкласці ў спорце. Ён не быў трэнерам, усяго толькі памочнікам, але вёў астатніх сваім прыкладам: каб трэніраваліся, займаліся спортам, перамагалі, рабіліся чэмпіёнамі. Чым больш байцоў з клуба на прызавых месцах — тым вышэй узровень клуба.

«Ён мае лідарскія якасці, магчыма — бацькоўскія для некага, — распавядае Алёна. — Не ведаю, чым ён іх чапляў... Магчыма, гэта валоданне мовай, дар перакanання. Але мог і прысароміць: «Вось, ты не ходзіш, не сочыш за сабой! Як так?» Вельмі сур'ёзна да ўсяго ставіўся, памятаю, заўжды абтэлефаноўваў хлопцаў, каб не забываліся, прыходзілі. Для яго тое было вельмі важна».

У гэтай справе Іллі даводзілася камунікаваць з вельмі рознай моладдзю, у тым ліку, залежнай ад алкаголю ды наркотыкаў. Шмат хто быў суседам з Уручча, з вайсковага гарадку. Ілля ўпэўнены, што чалавек мае пайсці ў зал, пачаць займацца, а пасля ўся набрыдзь сама адваліцца, не будзе патрэбы. Калі займаешся сур'ёзна спортам — то змяняешся як знешне, так і ўнутрана.

«Так, Ілля меў кантакты з рознымі людзьмі, бо выцягваў іх у нармальнае жыццё. Яны маглі назад саскочыць, прыходзілі да яго, плакаліся, а ён зноў цягнуў... Я яму казала: «Валавік, чаго ты цягаешся з гэтымі наркотамі? Не вадзі іх, я баюся». А ён: «Алёна, ты не разумееш, я ведаю яго з 15 гадоў, трэба дапамагчы!» Вось так і цягаўся з імі, даваў шанец», — кажа Алёна.

Ягонай марай было адкрыць свой зал, каб гэта было нядорага, бо 100 рублёў на месяц пры нашых заробках не кожны маладзён гатовы выкласці. Свой зал — для «сваіх пацаноў».

«Мы вылічвалі ўсё, — дадае Алёна, — складалі бізнес-план, але нават у нуль не атрымалася выходзіць. Мы ўжо шукалі памяшканне, спонсара. Яшчэ трошкі — і ў нас бы ўсё атрымалася. Я вельмі хацела дапамагчы, бо сама раней працавала менеджэрам. Калі б справа пайшла, я б звольнілася з працы, і гэта быў бы наш сямейны бізнес. Мары-мары...»

## Ані пацярпелых, ані пабояў — нічога

Падставай для затрымання Іллі Валавіка і ўсёй далейшай гісторыі сталі падзеі летняй ночы 2014 года. Яму ўвечары тады пазваніў нехта са знаёмых. Алёна не ведала зместу размовы, адно чула яго раздражнёную рэпліку: «Вы што? Куды?!» Ілля меў траўмаваную на трэніроўцы руку ў гіпсе, таму ні пра якія бойкі яму нават не думалася. Паехаў, каб суцішыць гарачыя галовы, каб не нарабілі чаго...

Увесь канфлікт, які пасля быў раздзьмуты ледзьве не да маштабаў «штурму тралейбуса з дымавымі шашкамі», доўжыўся ўсяго некалькі хвілінаў. Кароткая сутычка, парваная куртка, пару пшыкаў з газавага балончыка ды пабітае шкло тралейбуса. Сутычка была з фанамі «Тарпеда», помста за нешта сваё... Справа — пшык: ані пацярпелых, ані пабояў — нічога. Ілля наогул стаяў па іншы бок дарогі, бо спазніўся, не змог суцішыць 16–17-гадовых падлеткаў.

Праз нейкі час Мінсктранс падаў позву ў Заводскі РАУС за разбітае шкло, была заведзена «крыміналка». На допыты пачалі выклікаць сведак, некаторых браў спецназ: аднаму з хлопцаў падчас затрымання выбілі ўвесь першы шэраг зубоў. У выніку, кошт разбітага шкла быў сплочаны, справу праз паўгады прыкрылі. Валавіка не чапалі наогул.

Але следчыя цягам допытаў атрымалі падарунак у выглядзе хлопца з наркатычнай залежнасцю, які мог даваць любыя сведчанні: дыктуй — ён падпіша. У Іллі той яшчэ раней пазычаў грошы, каб сплаціць даўгі, бо крэдыторы яму пагражалі. У выніку хлопец даў паказанні, што менавіта Ілля ліў газ з балончыка... Для таго, каб падыхтаваць справу «належным чынам», следчым спатрэбіўся час — акурат да сакавіка 2016-га, калі Іллю забралі.

## «Мы дамовіліся, каб збіць з панталыку следчых...»

Асобны раздзел гэтай гісторыі — гэта сюжэт пра адваката. Пасля пасадкі мужа Алёне параілі аднаго «добрага спяца», дзень якога па тых часах каштаваў 4 мільёны. Адвакат з прозвішчам Ваўчкоў пакруціў носам, маўляў, 99%, што пасадзяць, і дадаў: «Я за такое г...но ніколі не ўзяўся б, але папрасілі». Ён і вёў справу з вясны 2016-га ажно па студзень, амаль да суда.

«Хадзіў ён да Іллі 1–2 разы на тыдзень. Мы плацілі, былі запасы сямейныя, на роды адкладзена, на дзіця — усё туды пайшло. А ён прыходзіў на 10 хвілін і... усё! Пасля аднаго дня ўвосень прыходзіць і кажа: «Мы з Іллём дамовіліся, каб збіць з панталыку следчых, ён у лістах будзе пісаць, маўляў, адвакат дрэнны. Вы яму адказвайце ў тым жа духу. Мы ўсіх надурым». Дамовіліся. Ілля нам так і пісаў, мы адказвалі адпаведна», — узгадвае Алёна.

Далей — цікавей. Калі Алёне нарэшце далі спатканне з мужам у СІЗА, той у першую чаргу абурыўся: «Чаму вы мяне не чуеце?! Я столькі месяцаў вам кажу пра адваката… Гэта ўсё праўда!»

«Я была ў такім шоку… 3 мая па студзень яго трымалі. Адвакат ведаў маю сітуацыю, ведаў, што дзіця маленькае… Высмактаў усе грошы, падманваў штораз. Ён сышоў перад самым судом, а мы ўзялі Ганну Бахціну», — дадае Алёна.

Бахціна пачала ў аўральным рэжыме вывучаць справу — 37 тамоў. Папярэдні адвакат нават гэтага не рабіў, у выніку Ілля вывучаў усё самастойна, рабіў выпіскі, пазнакі. Сама ж Ганна Віктараўна адно канстатавала: «Зараз ужо позна…» Самае цікавае, што Ваўчкоў яшчэназвоньваў родным Іллі з прапановамі дапамагаць і працаваць, як што, на пару з новым адвакатам.

Артыкулы апынуліся сур'ёзныя: «бойка» (частка 3 артыкула 339) ды «кіраўніцтва незарэгістраванай арганізацыяй» (артыкул 193 — тое самае, за што Зміцер Дашкевіч у 2006 годзе атрымаў свой першы тэрмін). Следчыя прыпісалі Іллі кіраўніцтва ажно шасцю (!) групоўкамі, якія дзейнічалі ў розны час.

### «Я агаварыў Валавіка»

Суд доўжыўся месяц, пасяджэнні праходзілі штодзённа. Не дзіўна, бо адных сведак апынулася больш за сотню: ажно да кіроўцаў праязджаючых міма аўто. Карціну, якую вымалевала следства, не пацвердзіў ніхто. Некаторыя ж наўпрост абураліся, калі іх называлі пацярпелымі: «Я не лічу сябе пацярпелым!» «А гэта не вам вырашаць», — лаканічна рэзюмаваў пракурор. Некаторыя фанаты «Тарпеда» не толькі не мелі прэтэнзіяў да Валавіка і іншых, але ж адкрыта адмовіліся ад сведчанняў, якія давалі падчас следства, кажучы пра ціск.

Віну прызналі ўсе фігуранты, акрамя Іллі Валавіка ды Вадзіма Бойкі, які і разбіў шкло. Апошні прызнаўся наўпрост у залі суда: «Я агаварыў Валавіка. Я выбачаюся перад бацькамі, перад Алёнай. На мяне ціснулі, а мае бацькі інваліды…» Ілля Валавік у выніку атрымаў 10 гадоў зняволення — колькі і прасіў пракурор. Сума атрымалася



Алёна з дачкой Глорыяй

шляхам складання: восем гадоў за «тралейбус» і тры гады, максімум, за «незарэгістраваную арганізацыю».

### «Заедзе Валавік, рабі з ім, што хочаш…»

Варта сказаць пару словаў і пра ўмовы ўтрымання ў СІЗА, куды трапіў Валавік. «Хата» №99 на Валадарцы (СІЗА №1) лічыцца «прэс-хатай»: туды трапляюць тыя, каго трэба зламаць. На момант «заезду» Іллі там ужо сядзеў «Тлусты» — забойца з залітымі ў модзе 90-х вазелінам кулакамі, мажны дзядзька 2-метровага росту ды вагой за 100 кілаграмаў. Ён, згодна са словамі Іллі, і ладзіў прэсінг.

Сістэма была арганізаваная наступным чынам: у кабінетах вязня «прэсуюць» следчыя, а па вяртанні ў камеру — «Тлусты», каб спакою не было нідзе. Ён забіраў у вязняў усе перадачы, частку перадаваў кудысьці «ў калідор», частку браў сабе, рэшту раздаваў астатнім, як сабакам. Пры гэтым злаваўся, калі перадачы былі «беднымі».

«Я спачатку перадавала добрыя перадачы, а Ілля кажа: «Які сэнс, калі я гэта толькі пабачу ды распішуся за атрыманне?..» Ён баланду еў, каб не карміць таго, «Тлустага». Я пачала перадаваць сціплейшыя перадачы, а што рабіць? Усё было пастаўлена на тое, каб справакаваць бойку — а Ілля цярпеў, не рэагаваў на правакацыі», — узгадвае Алёна.

Праз камеру №99 прайшло багата цікавых персанажаў. Напрыклад, мільянер Руклецоў, які займаўся аўтамабілямі. Быў таксама гандляр наркотыкамі, узяты па гучнай справе акурат у 2016-м. Тут жа сядзеў «Бензапіла» — маладзён, які парэзаў людзей у гандлёвым цэнтры. Тут жа — два забойцы, што рэзалі ды забівалі сваіх ахвяраў, жонак у тым ліку. Усё гэта гучныя справы, пра якія багата пісалі ў СМІ.

Магчыма, самым цікавым сукамернікам апынуўся… Канстанцін Бурыкін, больш вядомы як «бацюшка са свастыкамі», які «акармляў» РНЕ яшчэ ў 1990-я. Супадзенне? Не думаю. Бурыкін таксама займаўся спортам, але стаяў на ўльтраправых прарасійскіх пазіцыях. На волі ў іх з Іллём нейк быў канфлікт, таму следчыя ўсё прапілі нібыта правільна, але… канфлікту ў камеры не атрымалася, абодва разумелі, праз якое «супадзенне» яны тут сустрэліся.

Дарэчы, садзіць разам «фашыстаў» і «антыфашыстаў», кім лічыў сябе Ілля, — практыка даволі стандартная. Іншым разам у СІЗА Ілля сутыкнуўся з фанатам «Дынама», ідэйным праціўнікам. Той таксама не пайшоў на канфлікт, але зазначыў: «За 2–3 дні мяне выклікаў начальнік, мауляў, заедзе Валавік, рабі з ім, што хочаш…» Прэсінг непасрэдна з боку следчых выглядаў яшчэ больш цынічна.

«Ён распавядаў, што яму прынеслі заведзеную на мяне справу: «Ты ж нас ведаеш, нам пофіг, твая жонка народзіць за кратамі», — расказвае Алёна. — Я яшчэ была цяжарная, нарадзіла ў ліпені 2016-га. Таму Ілля нешта падпісаў, а ўжо на судзе часткова прызнаў віну толькі па эпізоду з бойкай, бо ён быў у тым раёне фізічна, але нічога не рабіў. Па артыкуле за незарэгістраваную арганізацыю, адмовіўся цалкам».

> **Ён пакутуе праз тое, што без яго расце наша дачка, Глорыя. Гэта ён прыдумаў імя, напісаў у лісце. Калі аднойчы ў нас было доўгае спатканне, ён увесь час амаль правёў з дачкой… Зараз перадаю яму ўсё, што просіць: рэчы, грошы на рахунак, кнігі. Ён там бегае, адціскаецца, стараецца трымаць сябе ў тонусе**

Ціск праз сям'ю, мабыць, самы жорсткі. Ён можа быць наўпроставым, а можа — прыхаваным. Так, у часе, калі Ілля знаходзіўся ў СІЗА, 3 кастрычніка 2017 года памёр яго бацька. Яму нельга было нервавацца, а тут такое… Пачаў худнець рэзка, на вачах. А пасля сэрца не вытрымала і спынілася назаўсёды.

### Імя для дачкі Ілля напісаў у лісце

У калонію №15 у Магілёве Ілля прыехаў з «шэрай біркай». Размова пра бірку, што мацуецца на робе і пазначае градацыю вязняў. У наркаманаў — свае, у суіцыднікаў — свае… Бірка Іллі значыць, што ён нібыта схільны сабатаж, уцёкаў і г.д. Падобныя біркі даюць большасці фанатаў. Прафілактычны ўлік яму быў дадзены яшчэ ў СІЗА, зняць яго можна толькі праз 2,5 гады. Калі не здымуць — значыць, вязень сядзіць «ад званка да званка», без спадзяванняў на ўмоўна-датэрміновае вызваленне. У сакавіку споўніцца два гады, як ён за кратамі. Наперадзе — яшчэ восем…

«Ён пакутуе праз тое, што без яго расце наша дачка, Глорыя. Гэта ён прыдумаў імя, напісаў у лісце. Калі аднойчы ў нас было доўгае спатканне, ён увесь час амаль правёў з дачкой… Зараз перадаю яму ўсё, што просіць: рэчы, грошы на рахунак, кнігі. Ён там бегае, адціскаецца, стараецца трымаць сябе ў тонусе», — кажа Алёна.

Ілля шмат чытае, у асноўным беларускую класіку. Тое-сёе ёсць нават у тамтэйшай бібліятэцы. Алёна новага пакуль не дасылае, бо ёсць абмежаванні: адна кніжная бандэроль на год. Часам у лістах перапытвае пра аўтараў, на якіх натрапіў: «Ці праўду пісалі? Як жылі?»

Зняволенне — заўсёды ўдар па здароўі. «Заехаць» можа цалкам здаровы чалавек, а на волю выходзіць ужо з букетам хранічных захворванняў: нястача вітамінаў, дрэннае харчаванне і вада, псіхасаматыка… У Іллі ўжо з'явіліся камяні ў нырках, чаго раней не было ніколі. Таксама ўпаў зрок: святло для чытання выбіраць не даводзіцца.

«Зараз яму даходзяць лісты ад мяне і мамы. Да восені з лістамі было ўсё ў парадку, а зараз… Перабоі. Ён заўжды ўсім стараецца адказаць. Распавядаў, да прыкладу, што толькі пасля Новага года яму прыйшоў ліст, які цётка адпраўляла ў верасні», — распавядае Алёна.

***

Яшчэ адзін важны момант, без якога расповед быў бы няпоўным, гэта жыццё Алёны ў акалічнасцях гэтай гісторыі. Нарадзіць, падтрымліваць свякроў, якая згубіла мужа, падтрымліваць мужа… як гэта?

«Я не ведаю, як пражыла ўсё гэта, — дзеліцца Алёна. — Мне падаецца, што цяжарнасць уключае інстынкт самазахавання. Ты не расстройваешся, не нервуешся — усё з каменным тварам успрымаеш, каб не нашкодзіць дзіцяці. Я не на адным судзе не заплакала. Можа, прытупілася нешта… Калі вырак на судзе чыталі, я ўжо нарадзіла была, усе плачуць, а я не: «Дзесяць — дык дзесяць, што далей робім?» — такія думкі».

Дапамагае таксама вера. Алёну яшчэ ў 2006-м Зміцер Дашкевіч упершыню запрасіў у пратэстанцкую царкву «Новае Жыццё». Для Іллі гэты шлях адкрыўся праз Алёну, якая спачатку нават саромелася весці туды хлопца.

«Ён быў няверуючы, я яго прывяла. Баялася, думала, што яму не спадабаецца. Сама не хадзіла пэўны час, адышла ад веры, збіралася вярнуцца. А тут — ён — як успрыме?.. Не хадзіла, але марыла, каб мы хадзілі ў царкву разам, малілася за гэта. Марыла, але не верыла, шчыра. Гады два так было. Пасля нейк намовіла яго, каб прывесці туды аднаго хлопца, што меў праблемы з алкаголем, на служэнне. Прывялі, але той хлопец нават да канца не вытрымаў. А Ілля пайшоў на сцэну і пакаяўся. Проста Дух Святы сышоў. Ён стаяў і плакаў».

Ілля пасля нейкі час вадзіў у царкву хлопцаў з трэніровак, каб навярнуць ад цемры да святла. Тое самае ў «Маладым фронце» некалі рабіў Дашкевіч — падобныя людзі, падобныя лёсы. У калоніі Ілля таксама знайшоў аднавернцаў, маліліся разам, пастар з Магілёва прыязджаў, але пасля ўсіх пераводзілі — Ілля застаўся адзін.

«Уяві сабе, сяджу я на спатканні з ім, а ён у слухаўку праз шкло мне Біблію цытуе! Я яму кажу нешта, а ён у адказ цытату з Евангелля!

Я думаю, ён будзе сядзець 10 гадоў. Так і бачу наша жыццё — закансерваваным да часу. Буду працу шукаць, чакаць на яго, расціць Глорыю. Усё ў Божых руках», — упэўненая Алёна.



Ілля працуе з дзецьмі ў зале

> **Хлопец быў выступаючым байцом па тайскім боксе. Займаўся прафесійна, трэніроўкі праходзілі шэсць, а часам і сем разоў на тыдзень. Працаваў менеджэрам на бетонным заводзе, паралельна вучыўся ва ўніверсітэце — энергіі хапала на ўсё**

Здымкі з архіву Іллі ды Алёны Валавік

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УКРАІНА. АТА за марыхуану?

Украінскія арганізацыі, якія выступаюць за легалізацыю марыхуаны, нечакана атрымалі новых саюзнікаў. Гаворка пра ветэранаў баявых дзеянняў на ўсходзе Украіны і ахвяраў канфлікту. Шмат каму з іх, калі верыць прыхільнікам легалізацыі, дапамагае ўжыванне «травы». «Выкарыстанне медыцынскай марыхуаны для ваенных і мірных жыхароў, якія сталі ахвярамі ваенных дзеянняў на ўсходзе Украіны, з'яўляецца актуальным», — адзначаецца на сайце адной з арганізацый. Тут жа прыводзяцца словы аднаго з ветэранаў: «Мне 29 гадоў, і я ветэран АТА. Падчас выканання баявога задання я падарваўся на міне. Пазней мне правялі больш за 12 аперацый і ампутавалі нагу... Мне часам дапамагае марыхуана... Думаю, такое пачуццё ўласціва шмат каму, хто ваяваў на Данбасе. Яны паляць марыхуану, каб неяк супакоіць нервы».

З улікам таго, што ветэраны АТА ва Украіне — вельмі актыўная і ўплывовая сацыяльная група, іх меркаванне можа прымусіць улады пагадзіцца на рэформу. Важнай падзеяй у працэсе легалізацыі «траўкі» прыхільнікі разглядаюць вялікую канферэнцыю ў Харкаве, якая пройдзе ў красавіку. Плануецца, што на ёй будуць сфармуляваныя адпаведныя прапановы да ўрада.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### РАСІЯ. Геі падтрымаюць Пуціна

У расійскім сегменце інтэрнэту з'явіліся відэаролікі, якія заахвочваюць галасаваць на прэзідэнцкіх выбарах 18 сакавіка. У найбольш скандальным вірусным роліку малюецца фантастычны сцэнар. Герою відэа, які не хоча ісці на выбары, сніцца сон — яго спрабуюць забраць у войска, сын у піянерскім гальштуку просіць 4 мільёны рублёў на ахову школы, а на кухні сядзіць «гей на ператрымцы». У фінале герой у жаху прачынаецца, каб бегчы на выбарчы ўчастак.

Рэклама сапраўды набрала папулярнасць, а тэма «гей на ператрымцы» стала мемам. Хоць палітычнага падтэксту ў роліку, быццам, няма, ён відавочна пабудаваны па прынцыпах «чорнага піяру», ахвярамі якога з'яўляюцца ліберали, што абараняюць правы ЛГБТ. Ксенія Сабчак ужо назвала ролік «гамафобнай брыдасцю».

Што тычыцца саміх геяў, натхнёныя ролікам, яны вырашылі падтрымаць Пуціна. Ініцыятыўная група «Геі за Пуціна!» падала на імя губернатара Санкт-Пецярбурга заяву аб правядзенні напачатку сакавіка дэманстрацыі.

**Паводле расійскай прэсы**

### АЛЖЫР. Дэпардзьё знайшоў новых прастакоў?



Французскі акцёр Жэрар Дэпардзьё працягвае асвойваць жанр палітычных разводаў. Яшчэ ўчора ён абяцаў жыць у Расіі, піярыў свой мегапраект развіцця вінаробства ў Крыме, атрымаў грамадзянства РФ (а ў дадатак — кватэры ў Грозным і Саранску). Потым ён раптам знік з экранаў тэлевізараў.

Зараз высветлілася прычына гэтага. Аказваецца, Дэпардзьё ахапіла любоў да Алжыру. У адным з інтэрв'ю акцёр прызнаўся, што вырашыў перабрацца жыць у адзін з алжырскіх гарадоў. Ён таксама асудзіў злачынствы французскіх каланізатараў у гэтай краіне.

Застаецца дачакацца, якой будзе рэакцыя алжырскіх уладаў на гэтыя незвычайныя фінты. Дарэчы, прэса сцвярджае, што акцёр ужо паспяхова прадаў падораную яму чыноўнікамі Пуціна нерухомасць у Расіі.

**Паводле французскай прэсы**

### ТУРКМЕНІСТАН. Эстафетная палачка — справа кіраўніцтва

Кіраўнік Туркменістану Гурбангулы Бердымухамедаў падчас пасяджэння Кабінета міністраў разгледзеў важнае пытанне — як павінна выглядаць эстафетная палачка для лёгкаатлетычнага кросу, які прысвечаны праекту «Шаўковы шлях». Намеснік прэм'ера прапанаваў на разгляд гаранта некалькі варыянтаў. Адзін з іх Бердымухамедаў зацвердзіў. Ён таксама даў каштоўныя ўказанні наконт правядзення забегу.

Навіна, напэўна, парадавала простых туркменаў, паколькі тэма марафона іх ніяк не тычыцца. Гэтага не скажаш пра веламарафон. У гэтым годзе кожнае дзяржпрадпрыемства Туркменістана накіруе для ўдзелу ў масавым велапрабегу ад 3 да 6 чалавек, якія павінны за свой кошт набыць ровары. Дзяржслужбоўцы, баючыся страціць працу, лічаць за лепшае не спрачацца з кіраўніцтвам і вымушаны здаваць грошы на ровары. Як кажа адзін з супрацоўнікаў туркменскай дзяржустановы: «Нам сказалі, што гэта міжнароднае мерапрыемства, радуйцеся, што вам пашанцавала ўдзельнічаць».

**Паводле туркменскай прэсы**




Фота www.4Liberty.eu

# Закупаў не будзе?

Алег НОВІКАЎ

**З 4 сакавіка ў Польшчы пачынае працаваць закон аб забароне гандлю ў нядзелю. Між тым, шмат хто прагназуе яго хуткую адмену праз цэлы комплекс прычынаў.**

Новы польскі закон меў на мэце, па-першае, узмацніць сем'і, у якіх муж або жонка ў нядзелю працуюць у сферы гандлю і, як вынік, не могуць быць разам. Па-другое, вярнуць нядзелі рэлігійны кампанент. Кажучы словамі аўтараў законапраекта, у нядзелю людзі павінны «святкаваць светлы дзень».

Гэта былі два галоўныя аргументы, якія выкарыстоўвалі лабісты закона пра забарону нядзельнага гандлю. У выніку яны пераканалі парламентарыяў, і тыя ў пачатку мінулага года прагаласавалі за адпаведны законапраект. Усё, чаго дамагліся апаненты забароны нядзельнага гандлю, — рэалізаваць рэформу паэтапна. З 4 сакавіка гэтага года крамы за Бугам па нядзелях будуць працаваць два разы на месяц. У наступным годзе — толькі адзін. А з 2020 года настане татальная забарона.

Напэўна, ёсць і трэці аргумент: калі Польшча хоча быць еўрапейскай краінай, яна павінна арыентавацца на лідараў Еўрасаюза. Сапраўды, у суседняй Германіі гіпермаркеты па нядзелях зачыненыя. У Франціі спроба бізнесоўцаў атрымаць права на нядзельны гандаль выклікала ледзь не нацыянальны страйк. Прадукты або рэчы першай неабходнасці ў Еўропе можна набыць у невялікіх крамах, якія часцяком належаць мігрантам.

У любым выпадку, змена графіку працы польскіх крамаў сапраўды глабальная. Паводле статыстыкі, 75 працэнтаў закупаў палякі робяць у нядзелю. Пад закон трапляюць каля 350 тысяч крамаў, дзе працуюць каля двух мільёнаў чалавек. Скептыкі прагназуюць, што новы графік працы крамаў можа каштаваць бюджэту каля 500 мільёнаў долараў.

Кампенсаваць страты ўладальнікі крамаў збіраюцца за кошт цэлага комплексу захадаў. Асноўная стаўка робіцца на тое, каб пераарыентаваць пакупнікоў рабіць закупы па пятніцах і суботах. Для гэтага рыхтуюць розныя прывабныя акцыі. Акрамя таго, у суботу гандлёвым цэнтрам дазволяць працаваць аж да 12 гадзінаў ночы.

Не выключаюць і хуткі бум інтэрнэт-крамаў, якія пачнуць дастаўляць тавар па нядзелях пасля анлайн-замовы. Чакаецца рост асартыменту ў крамах на заправачных станцыях, якіх змены ў законе не тычацца. Не закране новы закон і невялікіх прадуктовых кіёскаў на вакзалах і ў аэрапортах, якія таксама паспрабуюць скарыстацца сітуацыяй. Аматары «святкаваць светлы дзень» вельмі занепакоеныя такой перспектывай, і нават дапускаюць продаж тавараў у вакзальных кіёсках толькі пасля дэманстрацыі квіткоў.

Ёсць і абсалютна фантастычныя прапановы. Напрыклад, у нядзелю прапануюць дазваляць малым прадпрымальнікам гандляваць у буйных камерцыйных цэнтрах. Нарэшце, дзякуючы заканадаўчым навацыям у Польшчы можа з'явіцца такая пакуль не вядомая рэч, як «шоўрум». Гэта значыць, што крамы ў нядзелю будуць адчыненыя, аднак прадаваць у іх нічога не будуць. Паводле правілаў «шоўрум», кліенты могуць проста разглядаць тавары, каб пасля замовіць іх праз інтэрнэт.

Нягледзячы на мноства ідэяў, як абысці новы закон, скептыкаў усё роўна менш не робіцца. Напрыклад, не зразумела, што будзе з крамамі, якія гандлююць будаўнічымі матэрыяламі (як правіла, іх набываюць па нядзелях). Прагназуюць вялікія праблемы для кропак, якія арыентуюцца на замежнікаў. Беларусы, немцы, рускія звычайна робяць закупы ў Польшчы ў апошні дзень тыдня.

Цяжка ацаніць і чалавечы кошт рэформы. Паводле разлікаў спецыялістаў, пасля яе запуску шукаць працу давядзецца прыкладна ста тысячам чалавек. Урад лічыць, што такая лічба не катастрафічная для рынку працы. Хаця пры гэтым ігнаруецца важны момант. Трэцяя частка занятых у нядзельным гандлі належыць да вельмі агрэсіўнай сацыяльнай групы — студэнтаў. Для іх нядзеля — гэта адзіны дзень на тыдні, калі ёсць магчымасць трошкі зарабіць на жыццё, а не вучыцца.

Самае камічнае, што ахвярамі новага заканадаўства могуць стаць тыя, дзеля каго яго, нібыта, і прыдумалі. Гаворка пра тых, хто праз занятасць у нядзелю не можа цалкам прысвяціць сябе сямейным справам. Калі кампаніі будуць павялічваць працоўны час у суботу, наўрад ці супрацоўнікі крамаў вернуцца дахаты і выправяцца ў ложак раней за глыбокую ноч. Адпаведна, нармальны адпачынак у нядзелю ў іх не атрымаецца. І на імшу ў касцёл раніцай яны не пойдуць — будуць адсыпацца.

Хутчэй за ўсё, такія людзі будуць толькі сумаваць па часах, калі працавалі адпаведна нармальнаму графіку. Дадатковым фактарам для незадавальнення будзе, відавочна, выбарчы фармат рэформы. Чаму ў крамах па нядзелях працаваць нельга, затое можна ў розных «MacDonalds» або «Burger King»?

Усе гэтыя супярэчнасці дазваляюць меркаваць, што новы закон будзе дзейнічаць нядоўга. У кантэксце моцнай міжпартыйнай канкурэнцыі напярэдадні выбараў у наступным годзе тэма нядзельнага гандлю можа стаць вельмі палітызаванай. Каб не згубіць галасы, урадавая партыя, напэўна, адмовіцца ад амбіцыйнага плану прымусіць палякаў «святкаваць светлы дзень». Дарэчы, так ужо было ў Венгрыі, дзе аналагічны закон быў прыняты, аднак праз непапулярнасць хутка скасаваны.

# Апошнія дні Малдовы?

Алег НОВІКАЎ

**Малдоўскую глыбінку ахапіла мода на незвычайныя акцыі: кіраўнікі адміністрацый населеных пунктаў Рэспублікі Малдова падпісваюць дэкларацыі аб аб'яднанні сваіх вёсак з Румыніяй. Ці можна гэта разглядаць як агонію малдоўскай дзяржаўнасці?**

Апошні выпадак у гэтай серыі далучэнняў назіраўся ў мінулыя выходныя. 25 лютага прадстаўнікі мясцовых уладаў вёскі Лазавая Страшэнскага раёна падпісалі сімвалічную дэкларацыю аб аб'яднанні з Румыніяй. Адначасова над будынкам адміністрацыі быў узняты румынскі трыкалор. Гэтая вёска стала 55-м населеным пунктам, у якім сябры мясцовай рады падпісалі дакумент. Наўрад ці Лазавая — апошняе месца, дзе прымаюць прарумынскія заявы.

Падобныя «дэкларацыі» — з'ява, мякка кажучы, неардынарная для любой дзяржавы, якая лічыць сябе суверэннай. Тым больш дзіўна, што малдоўскім уладам усё гэта, нібыта, абыякава. Сваю пасіўнасць у дэпартаменце нацбяспекі спісваюць на тое, што акцыя з дэкларацыямі — выключна сімвалічная.

Сапраўды, падпісанне дакументаў арганізавала грамадзянская платформа «Acţiunea 2012». У «Acţiunea 2012» хочуць, каб у гэты год — год стагоддзя ўключэння Малдовы ў склад Румыніі (Уніі) — дэкларацыі прынялі ў ста населеных пунктах Малдовы. Як бачым, ніякай палітыкі. Тым больш, паводле плётак, за такія дэкларацыі ад «Acţiunea 2012» можна атрымаць пад тысячу еўра.

У лагеры прыхільнікаў цяперашняга прэзідэнта-сацыяліста Ігара Дадона і яго расійскіх саюзнікаў у заспакойлівыя рэляцыі слабка не вераць. «Малдоўская вёска «разарвала» пакт Молатава — Рыбентропа», — пафасна характарызуе працэсы ў вёсках адно з расійскіх медыя. Пішуць, што сялянскі флэш-моб — пралог глабальных падзей, якія адбудуцца ў сакавіку. Сэнс сімвалічных дэкларацый у тым, каб стварыць пэўны грамадска-інфармацыйны фон напярэдадні 25 сакавіка. У гэты дзень у Кішынёве плануецца буйная маніфестацыя аматараў Уніі з Румыніяй.

Калі верыць панічным прагнозам, звычайным мітынгам акцыя 25 сакавіка не абмяжуецца. Маніфестанты, быццам, застануцца на плошчы да аўторка, калі ў малдоўскую сталіцу прыедзе вялікая дэлегацыя дэпутатаў з Бухарэста. Румынскія дэпутаты разам са сваімі мясцовымі калегамі павінны прыняць удзел ва ўрачыстым пасяджэнні, прысвечаным стагоддзю Уніі. І тут надыдзе развязка: нібыта пад ціскам вуліцы дэпутаты прымуць нейкі стратэгічны дакумент — дарожную карту інтэграцыі Малдовы ў склад краіны-суседкі.

Ёсць шмат прычын не верыць у тое, што Малдове засталося існаваць менш за месяц. Хаця б таму, што Румынія — член Еўрасаюза, якому ў цяперашніх няпростых умовах менш за ўсё патрэбны новы канфлікт на мяжы.




**Трэба ўлічваць і меркаванне саміх румынаў. Румынскае грамадства ставіцца да праекту «Вялікая Румынія» значна менш аптымістычна, чым яго трыбуны. Сацыялагічнае апытанне ў студзені 2018 года паказала, што толькі 27% румынаў падтрымліваюць ідэю паглынання Малдовы**

Пра тое, што зблiжэнне Бухарэста і Кішынёва скончыцца канфрантацыяй, кажа цэлы шэраг адпаведных заяў лідараў Гагаузскай аўтаноміі. 26 лютага наконт гэтага была прынятая жорсткая рэзалюцыя. А адзін з лідараў Гагаузіі нават заявіў, што ў выпадку аб'яднання з Румыніяй «першым возьме ў рукі аўтамат».

Наўрад ці ўбаку застанецца і Украіна, да якой пасля пакту Молатава—Рыбентропа перайшлі ад Румыніі Букавіна і Паўднёвая Бесарабія. Не кажучы ўжо пра тое, што прыкладна паўмільёна грамадзян Малдовы з'яўляюцца этнічнымі ўкраінцамі.

Трэба ўлічваць і такі фактар, як меркаванне саміх румынаў. Румынскае грамадства ставіцца да праекту «Вялікая Румынія» значна менш аптымістычна, чым яго трыбуны. Сацыялагічнае апытанне ў студзені 2018 года паказала, што толькі 27% румынаў падтрымліваюць ідэю паглынання Малдовы.

Між тым у рэгіянальнай прэсе ўсё больш спекуляцый, аўтары якіх чакаюць хуткай грамадзянскай вайны. У каментары для «Новага Часу» свой прагноз прапанаваў малдоўскі грамадскі актывіст Анатоль Грыгарчук.

Ён адзначае: з пункту гледжання абывацеля нічога не паказвае на тое, што малдоўская дзяржаўнасць дажывае апошнія дні. «Хаця 25–27 сакавіка можна чакаць нейкіх узаемных правакацый, і нават прыняцця гучных маніфестаў пра Унію, Малдова ўсё роўна застанецца на палітычнай мапе свету. Кіруючая ў Малдове Дэмакратычная партыя, хаця і гуляе з прарумынскімі сіламі, у адкрытую з імі не блакуецца. Многія каментатары лічаць, што дэмакраты заплюшчваюць вочы на прарумынскую агітацыю, каб адцягнуць увагу насельніцтва ад актуальных сацыяльна-эканамічных праблем — прадукту працы іх урада. Таму ўсё, што адбудзецца ў сакавіку, — толькі піяр, фрагмент кампаніі напярэдадні восеньскіх парламенцкіх выбараў, якія сапраўды могуць быць вырашальнымі для будучыні краіны».

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Ніно Джавахадзэ



Намесніцы міністра ўнутраных спраў Грузіі даручылі важную місію — выратаваць бязвізавы рэжым для грузінаў у ЕС, які быў уведзены вясной мінулага года.

З гэтай мэтай чынуўніца пачала тур па краінах Еўропы, якія сутыкнуліся з праблемай грузінскіх нелегалаў. Найбольш пакутуюць ад наплыву грузінаў у Германіі, дзе каўказцы масава просяць палітычнага прытулку. Колькасць грузінскіх прэтэндэнтаў на прытулак у ФРГ з верасня мінулага года па студзень гэтага склала больш за 2300 чалавек.

Акрамя таго, у ЕС назіраецца рост актыўнасці грузінскіх крымінальных структур. Хрэстаматыйным стаў выпадак, калі адзін з прэтэндэнтаў на прытулак у Германіі ўмудрыўся здзейсніць 16 злачынстваў. У студзені МУС адной з зямель ФРГ нават заклікаў урад запусціць механізм прыпынення рэжыму бязвізу для грузінаў.

Зрэшты, да гэтага наўрад ці дойдзе. Для Тбілісі «бязвіз» з'яўляецца вельмі важным дасягненнем, і грузінскія ўлады будуць гатовыя пайсці на любыя захады дзеля таго, каб затармазіць нелегальную міграцыю. У прыватнасці, Джавахадзэ вязе ў Еўропу пакет прапаноў па барацьбе з грузінскімі нелегаламі. Яны ўключаюць абяцанне зрабіць больш жорсткай адказнасць для грузінаў-нелегалаў пасля іх дэпартацыі на радзіму.

Тым не менш у грузінскіх сацсетках назіраецца некаторая паніка, якую выклікала паведамленне ад 13 лютага. У гэты дзень адразу 19 уладальнікаў грузінскіх пашпартоў не прайшлі памежны кантроль у Германіі.

### Міт Ромні



Былы губернатар штата Масачусетс і кандыдат у прэзідэнты ЗША ад рэспубліканскай партыі на выбарах 2012 года, які апошнім часам займаў пасаду біскупа мармонскай Царквы Ісуса Хрыста святых апошніх дзён, нечакана вярнуўся ў вялікую палітыку.

Ён даў зразумець, што будзе балатавацца на пасаду сенатара ад штата Юта. Навіна выклікала вялікі энтузіязм сярод рэспубліканцаў, якія не ведаюць, што чакае партыю пасля заканчэння эры Дональда Трампа. Цяпер у партыі няма аўтарытэту, які б мог увасабляць кансерватыўныя каштоўнасці, і пры гэтым не мець імідж папуліста. Лічыцца, што менавіта Ромні з яго досведам здольны кансалідаваць вакол сябе ўсе партыйныя фракцыі і распачаць новую старонку ў гісторыю партыі. «Апошняя надзея рэспубліканцаў», — піша прэса, каментуючы вяртанне Ромні ў палітыку.

Хапае і тых, хто лічыць палітыка вельмі ліберальным, каб стаць полюсам аб'яднання. Ромні ў свой час заклікаў надаць амністыю ўсім нелегалам, якія хаваюцца ў Злучаных Штатах. Не трэба забывацца таксама, што Ромні — прыхільнік марманаў, царквы, супраць якой хапае забабонаў.

### Петэр Маркі-Заў



Венгерскі апазіцыйны палітык давёў, што нават у вельмі неспрыяльных умовах апазіцыя павінна змагацца. Нечакана для ўсёй Венгрыі 25 лютага ён перамог на выбарах мэра ў горадзе са складанай для славянскага вуху назвай Ходмезёвашархей (Hodmezovasarhely).

Маркі-Заў атрымаў 57 працэнтаў, у той час як яго апанент з урадавай правай папулісцкай партыі «Fidesz» — толькі 41. Такі вынік можна лічыць мегасенсацыяй, калі ўзгадаць, што на апошніх муніцыпальных выбарах 2014-га «Fidesz» захапіў уладу ў 94 працэнтах усіх венгерскіх муніцыпалітэтаў. Акрамя таго, яшчэ пару месяцаў таму ў Ходмезёвашархей за кандыдата ад «Fidesz» збіраліся галасаваць больш за 60 працэнтаў жыхароў. Таксама трэба нагадаць незвычайны факт — у горадзе такія моцныя правыя настроі, што некаторыя шыльды напісаныя старажытнымі рунамі, якімі венгры пісалі да прыняцця хрысціянства.

Нечаканы трыумф апазіцыянера — чорная метка для «Fidesz» і яе лідара Віктара Орбана, які збіраецца пераабрацца на пасаду прэм'ера на парламенцкіх выбарах 8 красавіка. Апаненты Орбана ўсур'ёз мараць, што поспех Маркі-Заў гальванізуе частку электарату, якая нелаяльная адносна рэжыму, аднак не верыць у перамогу. Сапраўды, атачэнне Орбана вельмі занепакоенае падзеямі ў правінцыйным Ходмезёвашархей. Адзін з паліттэхнолагаў Орбана назваў тыя мясцовыя выбары «фільмам жаху».



# Жыццё, якое не спраўдзілася

Святлана МІХАЛОЎСКАЯ

**У маім дзяцінстве я не чула размоў дарослых пра рэпрэсіі. Гэта было свядомае маўчанне. Памятаю толькі фразы, зрэдку вымаўленыя сцішаным голасам, з асаблівай інтанацыяй: «Ён СЯДЗЕЎ!» Або: «Яго дапытваў сам Цанава!» Ці: «Маўчы, пра гэта нельга гаварыць!» Падрабязнасці не агучваліся і не абмяркоўваліся.**

«Змова маўчання» прыводзіць да таго, што некаторыя ахвяры Сталінскага Халакосту растваraюцца ў часе, памяць пра іх сціраецца, як надпісы на старых надмагіллях. Адну з такіх «старанна забытых» персон я сустрэла пры складанні радаводу сваёй свякроўкі. Мяне ўразіў узрост гэтага чалавека, і вельмі захацелася аднавіць памяць пра яго.

## Сваяк

Пошук пачаўся з кароткай нататкі на сайце «Ахвяры палітычнага тэрору ў СССР»: «Дыбовский Михаил Гольянович. Родился в 1908 г., Белоруссия; белорус; б/п; начальник части Самарлага НКВД. Проживал: г. Куйбышев. Арестован 29 декабря 1937 г. Приговорен: тройка при УНКВД по Куйбышевской обл. 31 декабря 1937 г., обв.: по ст. ст. 58-8 и 58-10. Приговор: расстрел. Расстрелян 10 февраля 1938 г. Место захоронения — Куйбышев».

Гэта ўсё, што было вядома пра малодшага брата бацькі свякрухі.

Дзіўнае імя па бацьку «Гальяновіч» было памылкай прачытання рукапіснай загалоўнай «Ю» як «Га». Расстраляны «начальнік часткі Самарлага НКУС» успрымаўся мною адназначна як афіцэр НКУС, які сам трапіў «пад раздачу». Але непрыемная неспадзяванка толькі павялічыла жаданне больш даведацца пра яго жыццё і лёс. Сабраўшы дакументы для пацвярджэння сваяцтва, мы адправілі запыт у УФСБ па Самарскай (Куйбышаўскай) вобласці, па месцы расстрэлу Міхаіла. Адказ чакалі нядоўга — дзякуй супрацоўнікам Самарскага архіва ФСБ! З тоўстага канверта мы дасталі копіі пратаколу допыту, абвінаваўчага заключэння, даведкі на арышт — і перад намі разгарнулася кароткае жыццё забытага ўсімі чалавека.

## Адзін з першых вагонаважатых Мінска

Міхаіл быў малодшым з чатырох дзяцей валаснога фельчара Слуцкага павета Юльяна Дыбоўскага, які атрымаў сваю спецыяльнасць падчас службы ў 13 Лейб-грэнадзёрскім Эрыванскім палку.

Калі Міхаілу было каля сямі гадоў, яго бацька загінуў. Карміцелькай сям'і стала яго старэйшая сястра, выпускніца Слуцкай жаночай гімназіі, якая атрымала месца настаўніцы (тады казалі: «шкраб» — «школьны работнік») у невялікай сельскай школе і клапацілася пра маці і малодшага брата. Скончыўшы сямігодку, Міхаіл, у адрозненне ад сястры і двух старэйшых братоў, не абраў педагагічны напрамак. У тыя часы былі папулярнымі прафшколы, якія разам з сярэдняй адукацыяй давалі працоўную спецыяльнасць. Паводле звестак з самарскай «анкеты арыштаванага», Міхаіл пасля заканчэння сямігодкі два гады вучыўся ў мінскай прафшколе будаўнікоў, потым два гады працаваў у Мінску «на розных стройработах у якасці сталяра».

У кастрычніку 1929 года ў Мінску з'явілася першая трамвайная лінія. Гэта было значнай падзеяй для горада, а праца вагонаважатага лічылася вельмі прэстыжнай і цікавай. Міхаілу пашанцавала атрымаць накіраванне на курсы вагонаважатых, і ў 1930 годзе ён ужо стаяў (бо сядзення для кіроўцаў у першых трамваях не было) у кабіне аднаго з мінскіх трамваяў.

З дасланых нам следчых матэрыялаў вынікае, што Міхаіл быў камсамольцам (пасля першага арышту камсамольскі білет у яго быў адабраны і накіраваны ў ЦК ЛКСМ Беларусі), і нават у 1933 годзе быў кандыдатам у чальцы КПСС. У наш час пра такога чалавека сказалі б, што ён паспяхова «рабіў кар'еру».

## І арышт

На гэтым фоне выглядае дзіўным, што ў 1933 годзе старэйшы брат Міхаіла, які кіраваў сельскай школай у Бярэзінскім раёне, раптам забраў яго са сталіцы і ўладкаваў настаўнікам у школу вёскі Вялікія Логі. Не прайшло і паўгода на новым месцы, як Міхаіл быў арыштаваны і асуджаны «тройкай» пры ПП АДПУ па БССР паводле артыкула 85 КК БССР (махлярства).

Гэты артыкул прадугледжвае пакаранне за падробку дзяржаўных папер (ад грашовых знакаў да «іншых праязных дакументаў»). Максімальным пакараннем па ім была «вышэйшая мера сацыяльнай абароны» — расстрэл з канфіскацыяй маёмасці, але Міхаіл атрымаў мінімальнае: тры гады папраўча-працоўнага лагера (ППЛ).

Што мог падрабіць былы вагонаважаты? Трамвайныя квіткі? Каб даведацца пра гэта, мы паслалі запыт у Інфармацыйна-аналітычнае ўпраўленне УУС Мінаблвыканкама. Адказ быў нечаканым: аблігацыю!

**Спачатку распаўсюд аблігацый праводзіўся на добраахвотнай аснове. Але з цягам часу знікла добраахвотнасць набыцця аблігацый. З 1927 года паўстала новая форма іх распаўсюду: калектыўная падпіска з растэрміноўкай плацяжу**

## Пазыкі Саветаў

Савецкая дзяржава ў першыя дзесяцігоддзі свайго існавання мела сур'ёзныя эканамічныя цяжкасці. Саветы адмовіліся сплачваць дарэвалюцыйныя пазыкі царскай Расіі, а таму даваць крэдыты такой дзяржаве ніхто не хацеў. Пашукаць неабходныя сродкі дзяржава вырашыла ў сваіх грамадзян, друкуючы аблігацыі ўнутранай дзяржаўнай пазыкі.

Першыя такія аблігацыі з'явіліся ў 1922 годзе. Дзяржава брала ў людзей грошы на пэўны тэрмін (перыяд пагашэння), падчас якога яна карысталася большай часткай грошай укладчыкаў, а пэўны працэнт накіроўваўся на выплату выйгрышаў. Нявыйграўшыя аблігацыі па заканчэнні перыяду пагашэння можна было здаць — і вярнуць свае грошы.

Спачатку распаўсюд аблігацый праводзіўся на добраахвотнай аснове. Але з цягам часу раслі аб'ёмы выпуску, павялічваліся тэрміны пагашэння (пакуль не дасягнулі аж 20 гадоў) і, самае галоўнае, знікла добраахвотнасць набыцця аблігацый. З 1927 года паўстала новая форма іх распаўсюду: калектыўная падпіска з растэрміноўкай плацяжу.

Пасля выпуску чарговай пазыкі (гэта рабілася два-тры разы на год) кожны работнік прадпрыемства павінен быў падпісацца на абавязковую суму, якая складала частку яго месячнага заробку. Гэтую суму бухгалтэрыя вылічвала ў яго штомесяц. Калі ён цалкам разлічваўся з абавязацельствам, атрымліваў аблігацыі.

Абавязковая частка расла з кожным годам: калі ў 1927–1928 гадах яна складала 25% месячнага заробку, то ў 1930 годзе яна даходзіла нават да 100%. З добраахвотных мерапрыемстваў пазыкі ператварыліся ў абавязковыя фінансава-палітычныя акцыі. Калі звычайныя працоўныя, рызыкуючы быць падвергнуты астракізму, усё ж такі маглі не падпісацца на гэтыя драпежніцкія 100%, то «ўдарнікам» і «стаханаўцам» падпіска на іх была абавязковай — яны павінны былі быць прыкладам для астатніх. І, такім чынам, 2–3 месячныя заробкі за год трэба было аддаць дзяржаве.

На прадпрыемствах дзейнічалі створаныя на грамадскіх пачатках камісіі па распаўсюджванні аблігацый — «камсоды». Яны не толькі актыўна садзейнічалі распаўсюджванню, але і кантралявалі вяртанне і заклад аблігацый. 22 лютага 1930 года выйшла пастанова, якой забараняліся любыя аперацыі з дзяржаўнымі паперамі без дазволу камсодаў. Без пісьмовай згоды старшыні камсода ні адна аблігацыя не магла быць прададзеная або закладзеная ў ашчаднай касе. Выключэннем былі толькі аблігацыі, якія выйгралі.

Па афіцыйных дадзеных, на трэцюю пазыку індустрыялізацыі ў ліпені 1929 года падпісаліся амаль 10 мільёнаў чалавек, а на першы выпуск другой пяцігодкі ў маі 1933 года — ажно 40 мільёнаў чалавек. Можна ўявіць сабе маштабы практычна гвалтоўнага забрання заробкаў у рабочых і служачых!

І яшчэ: сума кожнай новай пазыкі, як сцвярджалася афіцыйна, «па просьбах працоўных», нязменна перакрывала планаваную суму яе эмісіі. Гартаю падшыўку газеты «Звязда» за 1931 год, і мурашкі паўзуць ад загалоўкаў: «ПАТРАБАВАННЕ перадавікоў фінпляну — рабочых завода імя Варашылава: «ПРОСІМ урад СССР выпусціць новую пазыку «Трэці рашаючы год пяцігодкі!». Альбо «Пазыкай сацыялістычнага наступлення ўдарым па ворагах бальшавіцкіх тэмпаў!».

Усяго па 1957 год уключна было 58 пазык (асабліва вызначыліся 1930-я гады — ажно 24 пазыкі!).

Адкрытая незадаволенасць прымусам дзяржпазык да сярэдзіны 1930-х гадоў пачала расцэньвацца ўладамі як контррэвалюцыйнае злачынства. Падобныя дзеянні караліся па вядомым 58 артыкуле КК РСФСР ці адпаведных артыкулах КК рэспублік.

## Дэфолт

Рэгулярныя канверсіі — абмен аблігацый «старых» выпускаў на «новыя» (па рабаўніцкім курсе, які адрозніваўся ў разы), пастаяннае невыкананне тэрмінаў гашэння аблігацый і парадку выплаты працэнтаў па іх, «замарожванне» аблігацый — у канцы 1950-х гадоў стварылі сітуацыю, калі выдаткі дзяржавы па абслугоўванні ўсіх выпушчаных пазык перавысілі паступленні ў казну ад размяшчэння новых папер. Дзяржаве стала нявыгадна пазычаць! І ў 1957 годзе ЦК КПСС і Савет Міністраў СССР прынялі пастанову, згодна з якой выпуск новых пазык спыняўся, раней абяцаныя плацяжы зноў былі адтэрмінаваныя на 20 гадоў, і тыражы выйгрышаў перасталі праводзіцца.

Гэты дэфолт з нахабным цынізмам быў паднесены як гарачае жаданне саміх абабраных працоўных. «Возьмем такі факт, як ажыццёўленыя па ініцыятыве працоўных мерапрыемствы ў адносінах да дзяржаўных пазык. Мільёны савецкіх людзей добраахвотна выказаліся за адтэрміноўку на 20–25 гадоў выплат па старых дзяржпазыках. Гэты факт раскрывае нам такія новыя рысы характару, такія маральныя якасці нашага народа, якія немагчымы ва ўмовах эксплуататарскага ладу», — казаў Мікіта Хрушчоў на ХХ з'ездзе КПСС.

Памятаю афіцэрскі планшэт бацькі, набіты гэтымі рознакаляровымі паперкамі, якія і выкінуць было шкада, і захоўваць бескарысна — мне дазвалялі ў дзяцінстве з імі гуляцца. Куды яны потым зніклі — не ведаю.

### Голад — не цётка

Міхаіл Дыбоўскі абраў уласную форму пратэсту гэтаму прымусу. Як вынікае з ліста Э.К.А. (эканамічнага аддзела) ПП АДПУ ў ЦК ЛКСМ Беларусі (са справы аб першай судзімасці Міхаіла), ён быў прыцягнуты да крымінальнай адказнасці «за выпраўленне (падробку) з дапамогай пяра і тушы №№ аблігацый і іх серый і атрыманне незаконных выйгрышаў».

Сапраўды, паліграфічнае выкананне аблігацыі было не вельмі дасканалым. Дамалёваць адзінку да чацвёркі і нуль да васьмёркі ўяўляецца магчымым. Але, каб знайсці «зыходны матэрыял» для вырабу «выйгрышай» аблігацый з патрэбнымі лічбамі, якія стаяць на патрэбных месцах, трэба было мець значную колькасць аблігацый. У святле гэтага фраза згаданага вышэй дакумента, што «за ўвесь час Дыбоўскім такім шляхам было атрымана выйгрышаў на суму каля 1000 рублёў», выклікае вялікі сумнеў.

Атрымаць грошы па аблігацыі, якая выйграла, можна было ў любой мінскай ашчаднай касе. Мяркуючы па тым, што Міхаілу гэта ўдалося, і, магчыма, неаднойчы, — ён не кваліўся на буйныя выйгрышы (аблігацыі, выйгрыш па якіх складаў больш за 1000 рублёў, адпраўляліся на праверку ў Маскву). Падобна, што работнікі банка не турбавалі сябе дбайнай праверкай дробных выйгрышаў, лічачы, што дзеля невялікай сумы чалавек рызыкаваць не будзе.

Сыты чалавек, магчыма, і не будзе. Але 1932–1933 гады — часы голаду, арганізаванага савецкай уладай. Голад быў вынікам кампаніі па гвалтоўнай калектывізацыі сялянства, раскулачванню і дэпартацыі за межы БССР паспяховых працаўнікоў-сялян, што прывяло да значнага скарачэння колькасці сялянскіх гаспадарак і вырабляемых імі прадуктаў. Галадамор 1932–1933 года афіцыйна прызнаны ва Украіне, але наіўна думаць, што ён не закрануў Беларусь.

Якім жа быў заробак першых мінскіх вагонаважатых? Думаю, не менш сярэдняга па краіне. У СССР у 1933 годзе ён складаў прыкладна 125 рублёў. З іх як мінімум 20 рублёў трэба было аддаць за падпіску на аблігацыі.

З 1929 года ў краіне была картковая сістэма размеркавання прадуктаў. Па нормах забеспячэння харчаваннем працоўных Масквы і Ленінграда — гарадоў першай (найвышэйшай) катэгорыі забеспячэння — звычайны працаўнік мог атрымаць па картцы штодня 400 г. хлеба (палова бохану), 25 г. (сталовая лыжка) крупаў, 100 г. мяса, 10 г. (чайная лыжка) сметанковага масла і 7,5 г. алею, тры чайныя лыжкі цукру. У межах гэтай нормы прадукты можна было набыць па дзяржаўных цэнах.

Мінск наўрад ці быў прыроўнены да Масквы і Ленінграда. Прадукты маладому, здароваму юнаку, які працуе «на свежым паветры», трэба было купляць па камерцыйных цэнах.

Мабыць, Міхаіл быў акрылены поспехам свайго першага «мерапрыемства» і пахваліўся маці або сястры. У сумленнай сям'і ўчынак Міхаіла выклікаў трывогу. Верагодна, таму старэйшы брат вырашыў звезці малодшага далей ад гарадскіх спакусаў. Але Міхаіл не змог стрымацца — бо есці хацелася кожны дзень.

Дакладную лічбу колькасці ашчадных кас у Мінску ў 1933 годзе мне знайсці не ўдалося, а ў маленькай вёсцы Вялікія Логі іх, бачна, зусім не было. Таму 28 снежня 1933 года Міхаіл паехаў атрымліваць «выйгрыш» у райцэнтр — мястэчка Беразіно. Бярэзінскі касір быў больш пільным за мінскіх, і «шчаслівы́чыка» адразу затрымаў начальнік РА-ГПУ Гарбузаў.

Паўтара месяцы доўжылася следства. Міхаіл ва ўсім прызнаўся, 10 лютага 1933 года ён быў асуджаны «тройкай» пры ПП АГПУ па БССР на змяшчэнне ў папраўча-працоўны лагер на тры гады.

### Працоўны лагер

ППЛ, як правіла, ствараліся пад пэўны будаўнічы аб'ект, каб выкарыстоўваць дармавую рабочую сілу зняволеных. Не выключэннем быў і Змітраўскі лагер, куды трапіў Міхаіл. Лагер быў створаны 14 верасня 1932 года адмыслова для будаўніцтва канала Масква — Волга.

Асноўным прызначэннем канала было забеспячэнне Масквы пітной вадой. Канал даўжынёй 128 кіламетраў быў пракапаны зняволенымі за пяць гадоў — уручную, з дапамогай рыдлёвак і тачак. На канале і на Маскве-рацэ было пабудавана 11 суднаходных шлюзаў з камерамі даўжынёй да 300 метраў, 7 гідраэлектрастанцый, 10 плацін і безліч дапаможных збудаванняў. Праца была не па-чалавечы цяжкай, такімі ж былі і ўмовы ў лагеры. У красавіку 1937 года, перад заканчэннем будаўніцтва канала, у Змітраўскім лагеры ўтрымлівалася 147 695 зняволеных.

Па заканчэнні будоўлі пачалося масавае вызваленне вязняў, якія пагасілі тэрмін ударнай працай. Усяго было вызвалена каля 55 тысяч чалавек. Міхаілу пашчасціла трапіць у лік вызваленых, нягледзячы на тое, што, адбываючы тэрмін, ён прымудрыўся атрымаць яшчэ адну судзімасць практычна па тым жа артыкуле: стаў «падбухторшчыкам або памагатым» у падробцы нейкага дакумента. Так што ён меў дзве судзімасці па 3 гады, але адбыў пакаранне на працягу толькі трох з паловай, і быў вызвалены датэрмінова з 1937 годзе.

Тым, хто вызваліўся, дазвалялася ўладкавацца на працу вольнанаёмнымі ў лагеры на будаўніцтве іншых збудаванняў, у тым ліку Куйбышаўскага гідравузла. Мабыць, Міхаіл пры вызваленні атрымаў накіраванне на працу менавіта туды, але перад гэтым усё ж такі наведаў сваякоў у Мінску.

Навіны ў сваякоў былі невясёлыя. Расстраляны 60-гадовы цесць сярэдняга брата — нібыта быў сябрам Партыі вызвалення сялян. За расстрэлам пачыналіся затрыманні астатніх чальцоў сям'і. Рыхтуючыся да рэпрэсій, старэйшы брат з сям'ёй пераехаў пад Мінск, бліжэй да польскай мяжы, каб мець магчымасць нелегальна перайсці на польскую тэрыторыю — і тут жа, седзячы ў піўной, дазволіў сабе ўголас абмеркаваць расстрэл Тухачэўскага. Па сямейным паданні, выратавала яго ад арышту тое, што ў ордэры было запісана прозвішча «Дубоўскі», а не Дыбоўскі, а прыехаўшыя па яго чэкісты былі вялікімі педантамі. У абстаноўцы, калі хмары сыходзіліся над галавой, ні ў каго не ўзнікла жаданне прыняць у сям'ю былога зняволенага ды звярнуць на сябе дадатковую ўвагу «органаў». І Міхаіл выправіўся на працу ў Самару.

Выклікае пытанні пасада, на якую прынялі Міхаіла: начальнік улікова-размеркавальнай часткі (своеасаблівы аддзел кадраў), якая займалася ўлікам і размеркаваннем вязняў, што прыбывалі на ўчастак. Як магчыма было атрымаць яе двойчы судзімаму землякопу?

Стваральнік сайта, прысвечанага будаўніцтву канала «Масква — Волга», moskva-volga.ru Ігар Кувыркоў адказаў: «Пра Змітраўскі ППЛ вядома, што здольных і таленавітых людзей не пакідалі на цяжкіх работах. Быў страшэнны дэфіцыт у кадрах для суправаджэння работ — чарцёжнікаў, канторшчыкаў, пісарчукаў. Пісьменныя і кемлівыя людзі досыць хутка з «агульных работ» траплялі ў канторскія служачыя і часам падымаліся дастаткова высока па службовай лесвіцы. Тое, што чалавек у інжынернай пасадзе мог быць адначасова зняволеным, — гэта было нармальна».

### Нядоўгае вольнае жыццё

Міхаіл пасяліўся ў Зубчанінаўцы недалёка ад Самары. Самарскі ППЛ быў арганізаваны 02.09.1937 года, а дакладная дата пачатку працы Міхаіла ў Самарлагу ў дакументах не пазначаная. Ён мог прапрацаваць там ад аднаго (снежань) да чатырох (верасень-кастрычнік-лістапад-снежань) месяцаў 1937 года. У чарговы раз Міхаіла

**Кемлівыя людзі з «агульных работ» хутка траплялі ў канторскія служачыя і часам падымаліся дастаткова высока па службовай лесвіцы**

арыштавалі 29 снежня 1937 года. Падставай для арышту сталася тое, што «ў трэці аддзел Самарлага НКВД паступілі даддзеня...»

Неназваны дабразычлівец паведамляў: «Працуючы на 2-м участку Зубачанінскана р-на Самарлага НКУС, будучы скрайне антысавецкі настроены Дыбоўскі сярод зняволеных сістэматычна праводзіць к.р. тэрарыстычную дзейнасць, накіраваную супраць правадыра народаў і кіраўніцтва партыі і ўраду. Дыбоўскі, карыстаючыся сваім службовым становішчам, стасуючым яго са зняволенымі лагера, 14 і 16 снежня г.г. сярод апошніх усхваляў расстраляных ворагаў народа Тухачэўскага і інш., распаўсюджваючы з гэтай нагоды правакацыйныя чуткі».

Гэта агульныя фразы. А вось і канкрэтныя факты: «16 снежня г/г Дыбоўскі ў прысутнасці зняволеных у памяшканні ўліковa-размеркавальнай часткі казаў: "У нас у пагранпаласе каля станцыі Негарэлае арыштоўваюць людзей і абвінавачваюць іх у сувязях з Польшчай у той час, калі яны нічога не ведаюць. Такі лёс напаткаў майго брата, які, седзячы ў піўной, усхваляў Тухачэўскага і іншых, як добрых людзей, якіх таксама арыштавалі"».

Гэтая цытата пацвярджае, што пасля вызвалення з лагера Міхаіл да родных усё ж з'ездзіў, — немагчыма ўявіць, каб у 1937 годзе хто-небудзь са сваякоў наважыўся даслаць яму такое па пошце. Немагчыма таксама паверыць, каб чалавек, які толькі вызваліўся з аднаго ППЛ і ўладкаваўся на працу ў другі, дазваляў сабе такія размовы са зняволенымі. Расказаць гэта можна было толькі ў прыватнай гутарцы, шэптам, чалавеку, якому можна цалкам давяраць. З улікам таго, што ў Самарлагу Міхаіл працаваў нядоўга, можна выказаць здагадку, што гэта быў сябар па Змітраўскім лагеры.

Справу на Міхаіла завёў спецыяльны 3-ці аддзел Самарлага, які ўзначальваў старшы палкоўнік Мікалай Емец (у сістэме НКУС з 1919 года, арыштаваны 01.12.1938, расстраляны 10.03.1939, у рэабілітацыі адмоўлена. — звесткі з nkvd.memo.ru).

Памочнік оперупаўнаважанага гэтага аддзела Фамін 29 снежня 1937 года правёў першы і, падобна, адзіны допыт Дыбоўскага, бо 30 снежня справа ўжо была накіраваная на разгляд «тройкі» УНКУС па Куйбышаўскай вобласці.

Вінаватым сябе Дыбоўскі не прызнаў, нават здзівіўшы Фаміна заявай, што «гатовы ісці на любое злачынства, але не палітычнае». І хоць у той час прызнанне лічылася «царыцай доказаў», падобна, што яго ад Дыбоўскага ніхто асабліва не дамагаўся. Для такой «звычайнай» справы (проста расстраляць!) цалкам дастаткова было паказанняў трох «сведкаў».

На допыце Міхаіл спрабаваў схаваць інфармацыю пра сям'ю брата, казаў, што не ведае, хто з іх арыштаваны. Але гэта нікога не хвалявала. Ужо 31 снежня «тройка» прыняла рашэнне аб расстрэле Міхаіла Дыбоўскага. У чарзе на расстрэл яму давялося прастаяць больш за месяц — мабыць, у катаў надта шмат было «працы».

***

Так скончылася кароткае жыццё, якое склалася з узлётаў і падзенняў, шчасця і няшчасця. Як быццам вагаліся шалі, на адной чашы якіх — ранняя страта бацькі, пошукі свайго месца ў жыцці; на другой — галодныя пакуты, саступка спакусе лёгкіх грошай і трапленне ў ППЛ. Застацца ў жывых у лагеры, выцягнуць шчаслівы білет вызвалення (датэрміновага!), знайсці не самую дрэнную працу — і тут жа легкадумна даверыцца здрадніку і паплаціцца за гэта жыццём...





Фота Аляксандра Саенкі

# Быць самураем у пластмасавым свеце

Мікалай ДЗЯДОК

**Зборнік Алеся Кіркевіча «Самурай» — пра тых, хто кінуў выклік рэчаіснасці.**

Гэтую рэцэнзію можна было б пачаць словамі пра тое, што аўтар не такі, як усе, што ісці супраць плыні могуць толькі самыя моцныя, добрыя і прыгожыя, але... Нічога з гэтага не прыходзіць на думку, калі чытаеш «Самурая». Бо кніга — не пра гэта.

Зборнік «Самурай» складаецца з 13 апавяданняў і шэрагу вершаў, якія ўжо пабачылі свет




на старонках «Нашай Нівы» і іншых выданняў.

Аўтар паказвае падзеі з жыцця проста і без сантыментаў — але і без залішняй «чарнухі» для прыцягнення ўвагі лянівага чытача. Людзі ў аповедах Кіркевіча — не чорныя і не белыя, а такія, якія ёсць. Змагары — не акружаныя анёльскім пафасам, а звычайныя людзі з недахопамі і смешнымі звычкамі. Мянты, бальшавікі і іншыя агенты «цёмнага боку» — не пачвары і не зверы, а проста персанажы з іншым наборам каштоўнасцяў.

Бачанне аўтара, аднак, не назавеш маральным рэлятывізмам. Прайшоўшы турму, пабачыўшы Майдан, адчуўшы боль людзей з лёсамі, паламанымі ў Вайне на Усходзе (менавіта так галоўны герой аднайменнага апавядання «Самурай» безапеляцыйна патрабуе называць тое, што мы ведаем як АТА), ён выдатна ведае, што ёсць добра і што ёсць зло, — і таму, мусіць, не хоча навязваць чытачу шаблоннымі параўнаннямі і патэтычнымі настаўленнямі. Нават там, дзе гаворка ідзе пра гістарычных персанажаў, на чыім баку праўда, можна здагадацца інтуітыўна — празмернае ўжыванне чорных фарбаў для адмоўных персанажаў зусім не патрабуецца.

Добра падмечаныя тыпажы з апавяданняў пра сучаснае беларускае жыццё нярэдка прымушаюць усміхнуцца: дробязі, да якіх мы прызвычаіліся і не заўважаем — камеры «Sony» ў цікароў, «Жанна з рэстарана», непаўторная трасянка і шмат што іншае — паўстаюць зусім у іншым свеце, калі выцягваюцца на старонкі пільнай увагай аўтара.

Проза Кіркевіча можа і не будзе цікавая шырокаму чытачу — ды і не на яго, пэўна, разлічвалася. Аднак усім тым, хто прызвычаіўся ісці па свеце з адкрытымі вачыма, тым, каго завуць «нацыянальнай інтэлігенцыяй» — актывістам, палітыкам, журналістам, сябрам грамадзянскай супольнасці — вельмі карысна будзе паглядзець на сябе збоку, а таксама захапіцца жыццём персанажаў, якое аўтар зрабіў па-сапраўднаму непрадказальным і захапляльным.

Набыць «Самурая» можна ў крамах «Акадэмкніга», «Цэнтральная кнігарня», «Светач», «Веды», «Кнігарня пісьменніка», «Кнігі і кніжачкі», «Эўрыка» і ў «Белкнізе».

# Бітва на дудах у цэнтры Мінска

Алена ЛЯШКЕВІЧ

**У мінскай кавярні «Грай» прайшоў дударскі батл. Частка музыкаў грала «за этнаграфію», а частка — «за Сярэднявечча».**






Фота аўтара

Сутнасць канфлікту між этнаграфічнай і сярэднявечнай фракцыямі — у духу невырашальнай дылемы: «Каго ты больш любіш, маму ці тату?».

Беларускае дударства не захавалася ў жывой народнай традыцыі і аднаўлялася гарадскімі аматарамі з 1980-х гадоў. Частка музыкаў шукала старыя запісы, выявы, апытвала ў экспедыцыях сведак грання на дудзе (саміх дудароў заспець не атрымалася). Паслядоўнікі гэтай плыні імкнуцца граць «этнаграфічна», маюць «народны» рэпертуар.

Другая плынь, «сярэднявечная», мае карані збольшага ў папулярнасці нямецкага гурта «In Extremo». Самі дуды і мелодыі, што на іх выконваюцца, маюць больш «фэнтэзійны» характар. Не, нямецкі дудльзак, на ўзор якога робіцца большасць інструментаў гэтай плыні, таксама адноўлены па гістарычных крыніцах, а сярэднявечныя мелодыі існуюць у нотных запісах. Проста праз большы, у параўнанні з «этнаграфічнай» плынню, час між колішнім граннем і сённяшняй рэканструкцыяй прастора для варыяцый таксама большая.

## Як адрозніць «сярэднявечнага» дудара ад «этнаграфічнага»

Шлях першы: магчыма, у «сярэднявечнага» дудара бурдон ці бурдоны (трубка дуды, што стварае ніжні гук) будзе ляжаць на плячы. А ў другога — боўтацца дзесьці ззаду з рознай ступенню інтэнсіўнасці. Але гэта недакладна. Дудар з бурдонам, што боўтаецца, можа граць і «за сярэднявечча», як Мікола Столяр і Віктар Лагацкі на ўчорашняй вечарыне. А ў «этнаграфічнага» дудара бурдон можа і не боўтацца, а ляжаць на руцэ, як учора ў Віталя Воранава (гэты шлях грання быццам бы характэрны для яго родных мясцін, Глыбоччыны).

Шлях другі: рэпертуар. З аднаго боку, народныя танцы і сярэднявечныя. Што тут складанага? Але ж беларускія народныя танцы можна выканаць і на «сярэднявечнай» дудзе. Ці на «этнаграфічнай», але ў складзе медываль-гурта, як Зміцер Сасноўскі ў «Старым Ольсе». Яшчэ ёсць «танцы народаў свету», кшталту французскай «Брэтонкі», «Джыгі па коле» нявызначанага паходжання ці шатландскага «Gay gordons», якія стала атабарыліся ў рэпертуары беларускіх «медывальшчыкаў». Але калі прыедзе дудар з краіны паходжання і заіграе такія танцы ў характэрнай для сваёй радзімы манеры, то гэта ўжо будзе ніяк не Сярэднявечча. А прыехаць гіпатэтычны дудар вельмі нават можа: 4–6 траўня ў Глыбокім адбудзецца фестываль «Дударскі рэй», на які запрошаны музыкі з усёй Еўропы.

Карацей, у нашай краіне ні ў чым нельга быць упэўненымі.

## Як праходзіў і чым скончыўся батл?

Выходзілі групы музыкаў ці сола-выступоўцы. Канферансье, Яўген Барышнікаў, іх прадстаўляў і пытаўся, за якую фракцыю яны граюць: «этнаграфічную» ці «сярэднявечную». Пасля няпростых роздумаў дылема вырашалася — і пачыналіся танцы.

Публіка «галасавала» рублём: можна было пакласці грошы «за фольк» у «этнаграфічны» бот, а «за медываль» — у рэканструкцыю сярэднявечнага. Спачатку планавалася, што танцоры будуць галасаваць нагамі, але праз складанасці методыкі падліку, дзеля забеспячэння празрыстасці «выбарчага працэсу» і якога-ніякога ганарару музыкам (уваход на вечарыны вольны) спыніліся на грашовым варыянце.

У выніку «за Сярэднявечча» сабралі амаль 27 рублёў, а «за этнаграфію» — больш за 42 рублі (адзін з іх дзіравы), 5 долараў і адну нарвежскую крону. Прымаліся любыя валюты. Выходзіць, народныя танцы публіка любіць амаль у два разы мацней за сярэднявечныя. Яўген Барышнікаў, адзін з заснавальнікаў Дударскага клуба, распавядае, што гэта трэці на яго памяці падобны батл, і «этнаграфічны» накірунак заўсёды перамагаў.

Танцы пад дуду будуць праходзіць у кавярні «Грай» амаль штосераду да канца красавіка. Па нядзелях там жа можна будзе патанчыць пад гармонік.

***

Дударскі клуб — гэта нефармальнае аб'яднанне майстроў, што робяць дуды, музыкаў, якія на іх граюць, а таксама тых, хто гэтым майстрам і музыкам спачувае: танцораў, напрыклад. Персанажы «я не танчу, я толькі паслухаць» таксама сустракаюцца. Сёлета — восьмы зімовы танцавальны сезон. Улетку праходзяць танцы на вольным паветры, на так званым Карчы. Цяпер гэта пляцоўка ў лесе недалёка ад метро «Барысаўскі тракт». Дударскі клуб мае патрэбу ў сродках, каб уваход заставаўся вольным, а на вечарыны можна было запрашаць гурты з выступам (хаця прынцып «вольны мікрафон», як цяпер, — гэта таксама весела).

Падтрымаць Дударскі клуб можна праз «Талаку».

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/190 ад 30.04.2004. Замова №231

Падпісана да друку 02.03.2018. 8.00. Наклад 2500 асобнікаў. Кошт свабодны.